Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Т. IV АДДЗЕЛ МЭЛІОРАЦЫІ і КУЛЬТУРЫ БАЛОТ № 1

Вучоны Аграном У. С. ЛІНЕВІЧ

# РЭНТАБЕЛЬНАСЬЦЬ ІНТЭНСЫЎНАЙ КУЛЬТУРЫ БАЛОТ
## ПА 12-ГАДОВЫХ МАТАР'ЯЛАХ (1914—1925 г.)
# МЕНСКАЙ БАЛОТНАЙ ДАСЬЛЕДЧАЙ СТАНЦЫІ

З ПРАДМОВАЮ ПРОФ. Н. С. ФРАЛОВА.







ТРУДЫ
БЕЛОРУССКОГО НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКОГО ИНСТИТУТА СЕЛЬСКОГО и ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА имени В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР

Ученый Агроном В. С. ЛИНЕВИЧ

РЕНТАБЕЛЬНОСТЬ ИНТЕНСИВНОЙ КУЛЬТУРЫ БОЛОТ
ПО 12-ти ЛЕТНИМ ДАННЫМ (1914—1925 г.)
МИНСКОЙ БОЛОТНОЙ ОПЫТНОЙ СТАНЦИИ

С предисловием проф. Н. С. ФРОЛОВА.

BULLETIN
OF THE WHITE RUTHENIAN LENIN'S INSTITUTE OF SCIENTIFIC RESEARCH OF AGRICULTURE AND FORESTRY AT THE SOVIET OF PEOPLE'S COMMISSARIES OF WRSSR.

V. S. LINIEVITCH, learned agriculturist.

RENTABILITY
OF INTENSIVE MOOR CULTURE AS RESULT
OF 12 YEARS CONTINUAL EXPERIMENTS
AT MINSK MOOR EXPERIMENTAL STATION

WITH A PREFACE BV PROF. N. S. FROLOFF.

МЕНСК — MINSK
1928 г.

## ЗАУВАЖАНЫЯ ПАМЫЛКІ ДРУКУ.

| Стар.: | | Надрукавана: | Трэба чытаць: |
|---|---|---|---|
| 8 | Зьнізу 3 радок. | Palutrichum | Polytrichum |
| „ | „ 4 радок. | Coriceto-Hipnetum | Cariceto-Hypnetum |
| 15 | § 1 | engiltigen | entgiltigen |
| 30 | § 2, зьнізу 10 і 11 рад. | Баранаваньне аўрасавай бараной Eggen mit der Aurasegge. | Укатваньне гладкім катком Ebenen mit der Glattwalze |
| 31 | § 7 (зьнізу 2 рад. таб.) у графе жанчын ці падлет. | 7 руб. 0,5 кап. | 7 руб. 05 кап. |
| 32 | § 6, зьнізу 3 і 4 рад. таб. | 18% Салетра чылійская 18% Chilisalpeter | Салетра чылійская Chilisalpeter. |

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Т. IV АДДЗЕЛ МЭЛІОРАЦЫІ і КУЛЬТУРЫ БАЛОТ № 1

Вучоны Аграном У. С. ЛІНЕВІЧ

# РЭНТАБЕЛЬНАСЬЦЬ ІНТЭНСЫЎНАЙ КУЛЬТУРЫ БАЛОТ

ПА 12-ГАДОВЫХ МАТАР'ЯЛАХ (1914—1925 г.)

# МЕНСКАЙ БАЛОТНАЙ ДАСЬЛЕДЧАЙ СТАНЦЫІ

З ПРАДМОВАЮ ПРОФ. Н. С. ФРАЛОВА.





ТРУДЫ
БЕЛОРУССКОГО НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКОГО ИНСТИТУТА СЕЛЬСКОГО и ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА имени В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР

Ученый Агроном В. С. ЛИНЕВИЧ

РЕНТАБЕЛЬНОСТЬ ИНТЕНСИВНОЙ КУЛЬТУРЫ БОЛОТ
ПО 12-ти ЛЕТНИМ ДАННЫМ (1914—1925 г.)
МИНСКОЙ БОЛОТНОЙ ОПЫТНОЙ СТАНЦИИ
С предисловием проф. Н. С. ФРОЛОВА.

BULLETIN
OF THE WHITE RUTHENIAN LENIN'S INSTITUTE OF SCIENTIFIC RESEARCH OF AGRICULTURE AND FORESTRY AT THE SOVIET OF PEOPLE'S COMMISSARIES OF WRSSR.

V. S. LINIEVITCH, learned agriculturist.

RENTABILITY
OF INTENSIVE MOOR CULTURE AS RESULT
OF 12 YEARS CONTINUAL EXPERIMENTS
AT MINSK MOOR EXPERIMENTAL STATION
WITH A PREFACE BY PROF. N. S. FROLOFF.

МЕНСК — MINSK

1928 г.

# ПРАДМОВА.

Літаратура па пытаньнях эканомікі мэліорацыі вельмі бедная. Працы, якія маюцца ў гэтай галіне, разглядаюць у большай частцы мэліорацыі, як народна-гаспадарчае мерапрыемства і адпаведна трактуюць аб іх народна-гаспадарчым значэньні. Аналізу эканамічнага боку мэліорацыі з пункту погляду паасобнага сельска-гаспадарчага мерапрыемства мы амаль што ня маем, і ўся справа тут звычайна зводзіцца да параўнаньня ўраджайнасьці альбо прыбытку дзесяціны абсушанай ці арашаемай плошчы і немэліараваных угодзьдзяў. У якой адносіне гэтая ўраджайнасьць і прыбытак знаходзяцца да вытвараных затрат, у асаблівасьці аснаўнога капіталу, якая частка гэтага аснаўнога капіталу, у якім разьмеры ўваходзіць у штогоднія затраты вытворчасьці, як гэтыя затраты пакрываюцца прыбыткам—амаль што ніколі, у асаблівасьці ў адносіне абсушальных мэліорацый, не вывучаецца.

Галоўнай прычынай гэтага зьяўляецца, па-першае, адсутнасьць неабходных дзеля гэтага даных, па-другое, нераспрацованасьць мэтадалёгічнага боку пытаньня.

Менская Балотная Дасьледчая Станцыя зьяўляецца першай у СССР установай, якая сабрала ўжо досыць значны, за час свайго існаваньня матар'ял дзеля дэталёвага эканамічнага аналізу прыбытку сельска-гаспадарчых расьлін на тарпяніку. Усебаковае вывучэньне даных Менскай Балотнай Станцыі як у гэтым, так і ўва многіх іншых адносінах мае аграмаднае значэньне дзеля высьвятленьня разнастайных, у прыватнасьці эканамічных, пытаньняў мэліорацыйнай справы. Праца **агранома-культуртэхніка У. С. Ліневіча**, якая прысьвечана гэтым пытаньням, прадстаўляе пагэтаму вялікую вартасьць.

Другое, ня менш каштоўнае, значэньне гэта праца мае таму, што ў ёй, на наш погляд, ужыты дасканала-правідловы мэтадалёгічны прыём дзеля нахаджэньня і вылічэньня таго прыросту чыстага прыбытку—мэліорацыйнай рэнты, стварэньне якой і складае галоўны эканамічны інтарэс зямельна-мэліорацыйных паляпшэньняў. Дасканала правідлова аўтар прылічыў да штогодніх затрат вытворчасьці ўсе расходы ня толькі па зваротнаму і аснаўному капіталу, з далучэньнем сюды як амартызацыі, так і проценту на капітал, выплат якога, з пункту погляду мэліорацыйнага прадпрыемства, разглядаемага, як самастойны рахунак у гаспадарцы, прадстаўляе некаторы няўхільны расход.

Ня зусім яскравым зьяўляецца вылучэньне аўтарам асобнай групы расходаў на „вечныя мэліорацыі", на якія ён не налічвае проценту пагашэньня, але аналіз гэтага пытаньня выходзіць напэўна за межы працы. Гэта-ж самае трэба сказаць і аб прынятым разьмеры амартызацыйных і іншых адлічэньняў.

Да асаблівай вартасьці працы трэба аднесьці тое, што аўтар не абмежаваўся толькі атрыманьнем тых ці іншых цыфравых вынікаў, але даў ім некаторае і эканамічнае асьвятленьне, у прыватнасьці, разглядзеў атрыманыя вынікі з пункту погляду сялянскае гаспадаркі.

Праца Ў. С. Ліневіча напэўна займе ня толькі сваё, і даволі значнае, месца ў літаратуры па эканоміцы мэліорацыі, але разам з тым прынясе і вялікую карысьць распрацаванымі ў ёй данымі дзеля пастаноўкі і абаснаваньня практычных мерапрыемстваў у галіне мэліорацыі і культуры балот.

**Н. Фралоў.**
Прафэсар Беларускай С.-Г. Акадэміі.

Горы-Горкі.
Студзень 1928 г.

# УСТУП.

Менская Балотная Дасьледчая Станцыя ўжо даказала тэхнічную рацыянальнасьць інтэнсыўнай культуры балот, але да гэтага часу не даказала яе эканамічнай рацыянальнасьці. А між тым гэтага патрабуюць ня толькі тыя штогоднія выдаткі, якія траціць Рэспубліка, але і тая праца, якую ўкладаюць сяляне ў справу культуры балот. Працоўныя масы сельскага насельніцтва, якія вераць вялікім тэхнічным дасягненьням на балоце Менскай Балотнай Дасьледчай Станцыі, арганізоўваюцца ў мэліорацыйныя таварыствы і з страхам прыступаюць да культуры балот. Сяляне інстынктыўна адчуваюць карыснасьць культуры балот і вобмацкам ідуць да яе, але калі сяляне могуць ісьці так, дык Дзяржава, якая траціць вялікія сродкі, ісьці вобмацкам ня толькі ня можа, але і не павінна. Усім установам, якія кіруюць сельскай гаспадаркай, неабходна мець зусім абаснаваную і эканамічна даказаную ісьціну аб рэнтабельнасьці культуры балот, каб з поўнай пэўнасьцю накіроўваць на гэты шлях сялянскія масы і гэтым самым выводзіць іх гаспадаркі з крызісу.

Маючы на ўвазе гэтае меркаваньне, я і прыступіў да эканамічнага аналізу с.-г. культур на торпе і вытлумачэньню рэнтабельнасьці інтэнсыўнай культуры балот.

Дзеля дасягненьня мэты, я разьдзяліў сваю працу на тры часткі. Першая частка мае апісальны характар эканамічна-гістарычных умоў дасьледчай балотнай гаспадаркі на Камароўскім балоце.

Другая частка мае дэталёвы эканамічны аналіз сельска-гаспадарчых расьлін на торпе, якія дасьледваліся ў гаспадарцы Менскай Балотнай Дасьледчай Станцыі. У гэтай частцы падлічаны і дэталёва распрацаваны ўсе аб'екты, якія маюць уплыў на прыбытак сельска-гаспадарчых расьлін як ва ўмовах гаспадаркі, якая ставіць сабе мэту атрымаць найбольшы чысты прыбытак ці найбольшую рэнту, гэтак і ва ўмовах працоўнай гаспадаркі, якая ставіць сабе мэту атрымаць найбольшы ўмоўна-чысты прыбытак, альбо найбольшую аплату працоўнага дню.

Трэцяя частка разглядае чысты прыбытак і агульную рэнту на мэліяраваным тарпяніку і прычыны яе зьяўленьня пасьля грунтоўнага паляпшэньня балота.

Выдаткі на мэліорацыю я падзяліў на два віды: на **вечную мэліорацыю**, якая існуе вечна і не падлягае амартызацыі, і на **мэліорацыю, якая падлягае амартызацыі**. Такім мэтадам, мне здаецца, **магчыма ўхіліцца ад той блытаніны,** якая ўносіцца працаўнікамі, асабліва ў **практычных пытаньнях мэліорацыі,** напрыклад, стаіць пытаньне, **куды аднесьці выдаткі** на расьцяробку хмызьняку, раскарчоўку пнёў, першае ўзорваньне і г. д. Гэтае пытаньне вырашаецца розна:

адны працаўнікі адносяць памянёныя выдаткі за рахунак сельска-гаспадарчых культур першых гадоў, другія адносяць іх да мэліорацыйных пабудоў, якія падлягаюць пагашэньню на працягу цэлага шэрагу гадоў, а трэція гэтыя выдаткі і зусім ігнарыруюць. Лічачы, што ўсе гэтыя тры выпадкі аднясеньня альбо ігнарыраваньня выдаткаў **несправядлівы**, я падзяліў усе мэліорацыі на два віды. Эканамічную рацыянальнасьць с.-г. расьлін на торпе разглядаў з чатырох бакоў: па масе і норме рэнты ва ўмовах прадпрыемчай гаспадаркі, па аплаце працоўнага дню і ўмоўна-чыстым прыбытку ва ўмовах працоўнай гаспадаркі з лішкам і недахопам працоўнай сілы (гл. рысунак № 1).

Аналізаваў с.-г. культуры на тарпяніку пры трох відах абсушкі: адкрытымі канавамі, фашынавым і ганчарна-трубкавым дрэнажом і ў некаторых выпадках пры сярэдніх выдатках з гэтых трох відаў абсушкі.

Дзеля вывадаў сярэдняга прыбытку з аднаго гэктара тарпяніку я прымаў пад увагу ўсю карысную плошчу Камароўскага балота з дэталёвым вучотам прапорцыі с.-г. расьлін існуючых севазваротаў гаспадаркі.

Трэба заўважыць, што амаль усе матар'ялы ўзяты з даных сапраўднай гаспадаркі і пагоджаны з яе жыцьцёвымі ўмовамі. Зразумела, што гэта складала большыя цяжкасьці ў выкананьні працы, бо абстрактныя разважаньні непараўнана лягчэй тых, якія маюць абавязковыя ўмовы жыцьцёвай пагоджанасьці. Але, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці, дзеля большага посьпеху культуры балот, я прыступіў да гэтай працы. І спадзяюся, што гэта праца дасьць магчымасьць грунтоўна абаснаваць практычныя мерапрыемствы ў галіне мэліорацыі і культуры балот.

Пры выкананьні гэтай працы сустракаліся цяжкія пытаньні, на якія ласкава давалі тлумачэньні Дырэктар Менскай Балотнай Дасьледчай Станцыі М. В. Дакукін і праф. Н. С. Фралоў, за гэта прыношу ім шчырую падзяку.

---

# ЧАСТКА I.

## Гісторыя разьвіцьця дасьледчай гаспадаркі на Камароўскім балоце.

У мінулым Камароўскі балотны масыў прадстаўляў дрыгву, якую падтапляла вада. Крынічныя і павярховыя воды служылі крыніцай збытковага абвільгаценьня масыва, а з тэй прычыны, што абсушальная сетка адсутнічала, дык вадзе была поўная магчымасьць падымаць сьвежы нязгніўшы матар'ял і жывы пакроў балотнай расьліннасьці. Дрыгва была настолькі топкая, што большая частка балота была недаступна для рагатай жывёлы і амаль што для чалавека, асабліва ў мокрыя гады. У больш спрыяючыя гады Камароўскае балота служыла часткова натуральнай сенажацьцю, часткова папасам для жывёлы. Вядома, што балотная плошча эксплёатавалася ня ўся, а ў большай частцы і зусім не скарыстоўвалася, за выключэньнем найбольш узвышаных месц пэрыфэрыі балотнага масыва. Гэта пацьвярджаецца яшчэ тым, што ў 1914 годзе вялікая плошча балота зусім ня была зачэплена культурай чалавека. У сучасны момант можна прасачыць на балотнай плошчы, якая належыць Менскаму Камхозу і паасобным сялянам, што яна скарыстоўваецца ня штогодна і ня ўся, але ўжо не таму, што яна не абсушана, а таму, што натуральныя сенажаці не даюць належнай ураджайнасьці, каб зрабіць іх рэнтабельнымі.

Камароўскае балота па свайму вельмі карыснаму становішчу ў адносіне да рынку не магло не зьвярнуць на сябе ўвагі сваіх уласьнікаў. Паасобныя гаспадары спрабавалі прыводзіць свае пляцы ў больш-менш культурнае становішча пры дапамозе абсушкі і расьцяробкі хмызьняку. Паляпшэньне гэтае праводзілася не сыстэматычна і не ў агульным маштабе. Кожны паасобны гаспадар прымяняў самыя рознастайныя спосабы паляпшэньня свайго пляцу, напрыклад, адны спрабавалі абсушаць, другія расчышчалі ад хмызьняку, трэція спрабавалі навозіць гарадзкое сьмяцьцё на больш дастўпныя месцы, а іншыя і зусім нічога не прадпрымалі да паляпшэньня сваіх пляцоў. Такія адносіны ўласьнікаў да сваіх пляцоў тлумачацца тым, што ўвесь балотны масыў знаходзіўся ў карыстаньні дробнага сялянства, за выключэньнем плошчы ў 30 дзесяцін, якая належала доктару Яноўскаму. Адна абсушка балота ня толькі не давала ніякай карысьці, але, наадварот, прыводзіла да частковага памяншэньня масы дзіка-асокавай расьліннасьці. Такое становішча адпіхала і найбольш прадпрыімных гаспадароў. Яны кідалі сваю працу, і ўсе праведзеныя канавы падпадалі паступоваму зарастаньню і засьмечаньню. А балотны масыў ізноў пакрываўся на большую палову году вадой. Зразумела, што доктар Яноўскі, маючы вялікую плошчу (30 дзесяцін), меў магчымасьць будаваць больш рацыянальна абсушальную сетку. Ён праводзіў канавы на адлегласьці 50—100 саж. Але гэтая абсушка не давала належных вынікаў таму, што ня было добрай вадаадводнай сеткі. Дый сама абсушальная сетка,

якая была праведзена доктарам Яноўскім на сваім пляцу, была прызнана Менскай Балотнай Станцыяй нездавальняючай. Наогул, трэба сказаць, што ўсе працы на Камароўскім балоце вельмі мала адбіліся на яго дзікай, натуральнай расьліннасьці, а ў некаторых месцах і зусім не адбіліся.

Зразумела, што такое становішча расьліннасьці і самога балота не магло дапамагчы атрымаць больш-менш здавальняючыя ўраджаі гаспадаром. Гэта пацьвярджаюць і сяляне, якія так ці інакш карысталіся гэтым балотам.

Па іх словах, адзін гэктар балота ня мог даць больш 70 пудоў сена; але, заўважаюць, што такі ўраджай магчыма было атрымаць толькі з таго гэктару плошчы, якая была на пэрыфэрыі балота і якая пераходзіла ў мінэральную глебу, дзе атрымоўвалі мурожнае сена. Звычайны тарпянік такіх ураджаяў не даваў, яны дасягалі толькі 40—45 пудоў на гэктар.

Малы прыбытак балота ў мінулым відаць яшчэ і з таго, што адзін уласьнік яго, Тамаровіч Павел, здаў у 1907 годзе ў арэнду Тамашэвічу Віталію 9,5 дзесяцін зямлі [1]), у лік якіх увайшло 6 дзесяцін балота Камароўскага масыву, за 70 руб. гадавой арэнды. Па словах таго-ж Тамаровіча, цанілася ва ўмове галоўным чынам мінэральная глеба, плошча якой складала 3,5 дзесяціны, а балота было толькі ў якасьці дадатку. Ён-жа заўважыў, што яго арандатар ня штогодна эксплёатаваў балотную плошчу па яе нерэнтабельнасьці.

Першая дасьледчая гаспадарка ў б. Менскай губэрні была арганізавана ў маёнтку Сялянска-Пазямельнага Банку на балотным пляцу „Кукуцелка“ пры мч. Лахве б. Мазырскага павету ў 1911 годзе. Балотны пляц Кукуцелка быў выгадным месцам дзеля арганізацыі дасьледчай балотнай гаспадаркі тым, што ён прадстаўляў сабою ўсе тыпы балот: нізіннае, пераходнае, махавое і г. д. Але масыў Кукуцелка быў ня зручны з прычыны неадхільнага падтопу ад ракі Сьмердзі і па месцы разьмяшчэньня, значыцца, зьяўляўся і мала прыступным для масавага даведваньня яго. Такім чынам, насьпявала неабходнасьць у арганізацыі другое балотнае гаспадаркі з падручным месцам разьмяшчэньня для масавага даведваньня яго. Па думцы загадчыка Менскай Балотнай Дасьледчай Станцыі А. Ф. Флёрава, такім месцам мог служыць Камароўскі балотны масыў. Гэтую думку дэпартамэнт земляробства пачаў праводзіць у жыцьцё ў 1912 годзе, калі ён узяў у арэнду 4 дзесяціны балота ў доктара Яноўскага на Камароўскім масыве пад апорны пункт пры М. Бал. Дасьл. Станцыі. У гэтым-жа годзе, гэты балотны пляц быў асушаны адкрытымі канавамі, восеньню ў 1913 годзе ўзораны і вясной 1914 году перададзены Менскай Бал. Дасьл. Станцыі.

Прафэсар А. Т. Кірсанаў адзначае [2]), што плошча адведзенага пляцу была не зачэплена культурай. Далей ён кажа, што тут ня было спробы абсушэньня балота. Зразумела, што пры такім становішчы балота расьлінная пакрышка мела магчымасьць заставацца ў дзікім незачэпленым становішчы. І складалася яна, галоўным чынам, з дзьвёх фармацый: Caricetum—herbosum і Coriceto—Hipnetum [3]). Трэба адзначыць, што па берагох тарпяніка сустракаліся падушкі з Palutrichum strictum Banks. Уся мінэральная глеба, якая прылягла да тарпяніка, была пакрыта, галоўным чынам, Nardus stricta.

---

[1]) Умова была зроблена тэрмінам да 1-га красавіка 1914 году.

[2]) Працы Менскай Бал. Дасьл. Ст. № 5.

[3]) Больш падрабязны сьпіс расьліннасьці гл. працы М. Б. Д. Станцыі № 2.

Летам 1914 г. вучастак быў дадаткова абсушаны часткаю дранажам з дошчак Буцаўскай сыстэмы, а часткаю адкрытымі канавамі. Драўляныя трубы закладаліся на адлегласьці 15, 20 і 30 мэтраў адна ад другой і на глыбіні аднаго мэтру. Уся павярхновая вада з балота адводзілася галоўнай магістральлю, якая праведзена праз усё балота, і якая ўліваецца ў гарадзкі канал, а праз яго і рэчку Пярэспу ў раку Сьвіслач. За два гады вучастак быў зусім абсушаны і ў 1915 г. засеяны аўсом, караньплодамі і мешанкаю лугавых траў, а ў 1916 г. ўжо ўвесь вучастак быў заняты мешанкай канюшыны з цімфейкай, якая трымалася да 1921 году.

З 1922 году на дасьледчай балотнай гаспадарцы пачынаецца новае жыцьцё: будуецца новы будынак, закупліваецца с.-г. і лугавы інвэнтар, праводзіцца абсушка дадатковых вучасткаў, значна пашыраецца с.-г. плошча і г. д.

У сучасны момант асушана і ўзята пад культуру 89,93 гэктара тарпяніка. Апрача таго, знаходзіцца:

| | | |
|---|---|---|
| Пад садам . . . . . | 1 | гэктар |
| „ вэгетацыйным домікам . . | 1 . | „ |
| „ заказьнікам . . . . | 13,25 | „ |
| „ канавамі . . . . | 4,69 | „ |
| „ маладым лесам і хмызьняком . | 7,57 | „ |
| „ шляхамі . . . . | 7,62 | „ |
| „ сядзібай . . . . . | 3,5 | „ |
| „ ральлёю мінэральнае глебы . | 45 | „ |
| „ пяском (высечаны лес) . . | 43 | „ |
| Разам усіх угодзьдзяў . . | 222,56 | гэктараў. |

## Арганізацыя дасьледчай гаспадаркі Балотнае Станцыі.

У першыя гады свайго існаваньня дасьледчая балотная гаспадарка займалася толькі расьлінаводзтвам, а іншых галін ня было. У 1918 годзе быў арганізаваны малочны статак, які існаваў да 1926 г. і ліквідаваны, як мала-прыбытковая галіна гаспадаркі. У сучасны момант гаспадарка трымае толькі рабочую жывёлу (коні) у ліку 15 галоў. Фабрычна-тэхнічных прадпрыемстваў у гаспадарцы няма. Такім чынам, цяпер у гаспадарцы існуе толькі адна сельска-гаспадарчая галіна—расьлінаводзтва.

У паляводзтве гаспадаркай быў прыняты наступны 10-цёхпалёвы севазварот:

1) Мешанка канюшыны з цімафейкай.

2) Другі год карыстаньня мешанкай канюшыны з цімафейкай.

3) Трэці год карыстаньня мешанкай канюшыны з цімафейкай і ўвосень альбо вясной новы засеў той-жа мешанкай канюшыны з цімафейкай.

4) Першы год карыстаньня другім засевам мешанкі канюшыны з цімафейкай.

5) Другі год карыстаньня другім засевам мешанкі.

6) Трэці год карыстаньня другім засевам мешанкі і засеў жыта.

7) Ж ы т а.

8) Авёс і іншыя яравыя злакі.

9) 0,5 поля—мешанка вікі з аўсом, з элемэнтамі частковай папаравай апрацоўкі і 0,5 поля—каноплі.

10) Прапашныя: бульба, капуста, караньплоды і частка злакаў у выглядзе прапашных.

„Прыведзены*) севазварот трэба разглядаць толькі як схэму, якая паказвае асноўны прынцып культуры балот з разьлікам на максымум вытворчасьці с.-г. расьлін, якімі засяюцца палеткі гаспадаркі, пры мінімуме затрат працоўнай сілы на адзінку ўраджая, якія атрымоўваюцца ў гаспадарцы".

На першы погляд у гэтым севазвароце будзе незразумела чаргаваньне двухкратнага засеву (адзін за другім) мешанкі канюшыны з цімафейкай. Такое чаргаваньне мешанкі наводзіць на думку аб „клевероутомленіі". Але па досьледах М. Б. Д. Станцыі „клевероутомленіе" на торпе ня мае такой значнасьці, як на мінэральнай глебе.

З 1927 году вышэйпрыведзены 10-польны севазварот трохі зьмяняецца ў бок павялічэньня траў і памяншэньня злакаў, як менш тэхнічна-рацыянальных с.-г. расьлін на торпе, а таксама і меншай іх эканамічнай рэнтабельнасьці.

Чаргаваньне с.-г. расьлін у гэтым новым 10-ціпалёвым севазвароце будзе наступнае:

1) Травы (мешанка канюшыны з цімафейкай).
2) Травы другога году карыстаньня.
3) Травы трэцяга году карыстаньня.
4) Травы чацьвертага году карыстаньня і ўвосень альбо вясной другі засеў траў той-жа мешанкі.
5) Травы другога году карыстаньня другім засевам мешанкі.
6) Травы трэцяга году карыстаньня другім засевам мешанкі.
7) Травы чацьвертага году карыстаньня другім засевам мешанкі.
8) Зернавыя: жыта, авёс, ячмень, каноплі, віка і г. д.
9) Прапашныя: бульба, капуста, караньплоды і г. д.

Перамена севазвароту ў гаспадарцы выклікана тэхнічным меркаваньнем: па-першае, з-пад траў поле выходзіць менш засьмечаным, чым з пад зернавых, а па-другое, скарачаецца і сама плошча пад с.-г. расьлінамі, якія спрыяюць большай засьмечанасьці. Апрача таго, прымалась пад увагу меркаваньне і эканамічнага характару, напрыклад, мешанка траў у чацьвертым годзе дае больш-менш здавальняючы ураджай; у новым севазвароце ёсьць магчымасьці карыстацца гэтым ураджаем, чаго немагчыма было зрабіць у старым севазвароце. Адначасова з пераменай 10-ціпалёвага севазвароту ўводзіцца яшчэ два севазвароты: сяміпольны і вольны.

У сяміпольным севазвароце чаргаваньне с.-г. расьлін наступнае:

1) Прапашныя.
2) Травы (мешанка канюшыны з цімафейкай).
3) Травы другога году карыстаньня.
4) Травы трэцяга году карыстаньня.
5) Травы чацьвертага году карыстаньня.
6) Жыта.
7) Авёс.

З прыведзеных севазваротаў відаць, што сыстэма земляробства ў гаспадарцы шматпольна-травяная. Галоўным прадуктам гаспадаркі, які азначае рэнту, зьяўляюцца травы, прапашныя і авёс.

Сярэдняя ураджайнасьць сельска-гаспадарчых расьлін на торпе, якая атрымана за 12 год балотнай гаспадаркай, відаць з наступнай табліцы:

---

*) Праф. А. Т. Кірсанаў—„Аналіз галоўных с.-г. расьлін, якія дасьледваліся Менскай Балотнай Дасьл. Станцыяй з 1914 г. па 1924 г. укл.". Працы Менскай Балотнай Дасьледчай Станцыі № 9.

Ураджайнасьць с.-г. расьлін. Табліца № 1.
Ernteertrag der landwirtschaftlichen Kulturgewächse. Tabelle № 1.

| № чаргова Laufende Nummer | Назва сельска-гаспадарчых расьлін / Benennung der landwirtschaftlichen Kulturpflanzen | Зярна ці клубне-кораньплодаў з 1 г. / Getreide oder Knollen-Wurzelgewächse von 1 ha | | Сена ці саломы з 1 г. / Heu oder Stroh von 1 ha | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Пуд. Pud. | Кілёгр. Kg. | Пуд. Pud. | Кілёгр. Kg. |
| 1 | Мешанка канюшыны з цімафейкай / Mischung von Klee u Timotheusgras | — | — | 308 | 5045 |
| 2 | Брэменская мешанка траў / Bremer Grasmischung | — | — | 229 | 3751 |
| 3 | Мешанка вікі з аўсом на сена / Mischung von Wicke u. Hafer für Heu | — | — | 291 | 4767 |
| 4 | Авёс / Hafer | 109 | 1785 | 245 | 4013 |
| 5 | Ячмень / Gerste | 98 | 1605 | 130 | 2029 |
| 6 | Жыта азімае / Winterroggen | 91,5 | 1509 | 182 | 2981 |
| 7 | Жыта яравое / Sommerroggen | 64 | 1048 | 113 | 1750 |
| 8 | Бульба / Kartoffeln | 972 | 15921 | — | — |
| 9 | Турнэпс / Turnips | 2696 | 44180 | — | — |
| 10 | Морква кармавая / Futtermöhren | 1694 | 27807 | — | — |
| 11 | Капуста / Kohl | 1664 | 27332 | — | — |
| 12 | Бручка сталовая / Tischkohlrüben | 1820 | 29811 | — | — |
| 13 | Каноплі / Hanf | 29,5 | 483 | 281 | 4603 |
| 14 | Лён / Lein | 18,3 | 300 | 244 | 3997 |

Вышэйпрыведзеная сярэдняя ўраджайнасьць с.-г. расьлін з гэктара тарпяніка зьяўляецца скарэй за ўсё мінімальнаю ўраджайнасьцю, бо цыфры ўраджайнасьці вылічваліся па дасьледных даных усіх вучасткаў, на якіх ставіліся досьледы, а вядома, што былі досьледы і такія, якія не давалі амаль што ніякага ўраджаю. Бязумоўна, што гэта адбівалася на паніжэньні сярэдняе ўраджайнасьці. Але гэта зроблена наўмысьля і дзеля таго, каб ухіліцца ад павялічанай рэнтабельнасьці культуры балот, якая іншы раз дапускаецца ў працах агітацыйнага зьместу. Апрача гэтага, ставілася мэта, каб прыбытак сельска-гаспадарчых расьлін дасьледчай гаспадаркі прыблізіць да прыбытку с.-г. расьлін звычайных гаспадарак. Больш падрабязна азнаёміцца з ураджайнасьцю с.-г. расьлін на балоце магчыма па даных праф. А. Т. Кірсанава „Аналіз ураджайнасьці галоўных расьлін, якія спрабаваліся на Менскай Балотнай Станцыі з 1914 па 1924 год уключна—працы Станцыі № 9".

## Эканамічныя ўмовы дасьледчай балотнай гаспадаркі.

Камароўскі балотны масыў з агульнай плошчай 250 дзесяцін ляжыць з паўночна-ўсходняга боку г. Менску. Блізкасьць вялікага рынку спрыяе гаспадарцы рэалізаваць свае прадукты, якія яна прадае ў большасьці гуртам.

У ніжэйпрыведзенай табліцы паказаны сярэднія цэны сельска-гаспадарчых прадуктаў за тры гады з 1/IX—1923 г. па 1/IX—1926 г. па г. Менску. Я абмяжоўваюся цэнамі па г. Менску таму, што гаспадарка рэалізуе ўсе свае прадукты толькі на Менскім рынку. Лічу зусім лішнім прыводзіць цэны даваеннага часу. Гаспадарка хоць і існуе з 1914 году, але першыя гады яна мела параўнальна малы разьмер, як па плошчы, гэтак і па сваёй вялічыні наогул. Апрача таго, вайна і рэвалюцыя прывялі ў нясталае становішча ня толькі цэны, але і ўсю грашовую сыстэму. Наогул гаспадарка пачала шпаркім тэмпам праводзіць мэліорацыйныя пабудовы толькі пасьля грамадзянскай вайны з 1922 году. У гэты час, інтэнсыўнай працы гаспадаркі, была ўведзена і цьвёрдая валюта. Уся гэта акалічнасьць дазваляе мне застанавіцца на цэнах апошніх гадоў, г. зн. з 1/IX—1923 г. па 1/IX—1926 г.

Цэны на сельска-гаспадарчыя прадукты*). Табліца № 2.
Preise der landwirtschaftlichen Produkte*). Tabelle № 2.

| № Laufende Nummer | Назва сельска-гаспадарчых прадуктаў і мінэральных угнаеньняў. Benennung der landwirtschaftlichen Produkte und Mineral-Düngemittel. | Сярэдняя цана за тры гады 1 кілёгр. Durchschnitspreis auf 1 Kg. in 3 Jahren | |
|---|---|---|---|
| | | Руб. Rub. | Кап. Kop. |
| 1 | Жыта Roggen | — | 7,0 |
| 2 | Пшаніца Weizen | — | 9,3 |
| 3 | Авёс Hafer | — | 7,33 |
| 4 | Ячмень Gerste | — | 7,57 |
| 5 | Ільнянае семя Leinsamen | — | 11,11 |
| 6 | Бульба Kartoffeln | — | 2,56 |
| 7 | Бручка сталовая Tischkohlrüben | — | 1,53 |
| 8 | Капуста Kohl | — | 2,44 |

*) Зьвесткі аб цэнах на с.-г. прадукты па гораду Менску атрыманы ў ЦСУБ, а на мінэральныя ўгнаеньні, насеньне траў і караньплодаў узяты з ЦЗС НКЗБ; цэны на караньплоды ўзяты па сапраўднай прадажнай каштоўнасьці ў гаспадарцы.

*) Die Berichte über die Preise der landwirtschaftlichen Produkte in Minsk stammen von der staatlischen Zentralstelle für die Weissrussische Republik, die Berichte über die Preise auf Mineraldünger, Krautsamen und Wurzelfrüchte aus der Verwaltung des Zentral-depots des Landwirtschaftskommissariats derselden Republik die Preise auf Wurzelfrüchte entsprachen den tatsächlichen Kaufpreisen in der Wirtschaft.

| №<br>Laufende Nummer. | Назва сельска-гаспадарчых прадуктаў і мінэральных угнаеньняў.<br>Benennung der landwirtschaftlichen Produkte und Mineral-Düngemittel. | Сярэдняя цана за тры гады 1 кілёгр.<br>Durchschnitspreis auf 1 Kg. in 3 Jahren | |
|---|---|---|---|
| | | Руб.<br>Rub. | Кап.<br>Kop. |
| 9 | Сена канюшынавае<br>Kleeheu | — | 4,62 |
| 10 | Сена балотнае<br>Sumpfheu | — | 3,05 |
| 11 | Сена вікі з аўсом<br>Wicke-Haferheu | — | 3,42 |
| 12 | Морква кармавая<br>Futtermöhrhn | — | 1,22 |
| 13 | Турнэпс<br>Turnips | — | 0,92 |
| 14 | Насеньне канаплянае<br>Hanfsamen | — | 9,16 |
| 15 | Насеньне вікі<br>Wickesamen | — | 11,00 |
| 16 | Насеньне канюшыны чырвонай<br>Rotkleesamen | 1 | 60 |
| 17 | Насеньне канюшыны белай<br>Weisskleesamen | 1 | 40 |
| 18 | Насеньне цімафейкі<br>Timotheussamen | — | 68 |
| 19 | Насеньне кармавой морквы<br>Futtermöhrensamen | 2 | — |
| 20 | Насеньне турнэпса<br>Turnipssamen | 3 | — |
| 21 | Пянька<br>Hanf | — | 35,47 |
| 22 | 1000 экзэмпляраў расады капуснае і бручкі<br>1000 Stück Kohl u. Kohlrübensetzlinge | 2 | — |
| 23 | Салома азімая<br>Winterstroh | — | 1,95 |
| 24 | Салома яравая<br>Sommerstroh | — | 2,34 |
| 25 | Фосфорытная мука 28—30°/o<br>Phosphormehl | — | 3 |
| 26 | Касьцяная мука 28—32°/o<br>Knochenmehl | — | 5,2 |
| 27 | Тамасаў шлак 16°/o<br>Thomasschlacke | — | 6,9 |
| 28 | Расійскі супэрфасфат 12°/o<br>Russisches Superphosphat 12°/o | — | 6,25 |
| 29 | Замежны супэрфасфат 18°/o<br>Ausländisches Superphosphat 18°/o | — | 7,25 |
| 30 | Чылійская салітра<br>Chilisalpeter | — | 22,0 |
| 31 | Калійная соль 38—40°/o<br>Kalisalz 38—40°/o | — | 8,25 |

Каштоўнасьць працоўнага дню расцэньваецца ў гаспадарцы наступным чынам *):

1) Каня **) . . . . 1 р. 25 к.

2) Мужчыны . . . . 1 „ —

3) Жанчыны ці падлетка . . — 75 к.

У гаспадарцы ўсе сэзонныя працы выконваюць падзённыя працаўнікі. Сталых працаўнікоў гаспадарка трымае толькі шэсьць чалавек. Ĭ дзеля кіраваньня гаспадаркай трымаецца загадчык гаспадаркі, рахункавод і старшы рабочы. Гаспадарка хоць і адносіцца да капіталаінтэнсыўнай сыстэмы, але з той прычыны, што вытварае толькі расьлінаводныя прадукты, яна не патрабуе складанага адміністрацыйнага кіраваньня.

---

*) Каштоўнасьць працоўнага дню прыводзіцца па сапраўднай аплаце гаспадаркаю.

**) Каштоўнасьць працоўнага дню каня вылічана па сапраўднай каштоўнасьці ўтрыманьня каня ў гаспадарцы. Э. Ĭ. Шыпэрка — „Матар'ялы па эканамічнай ацэнцы культуры балот па даных Камароўскай балотнай гаспадаркі з прадмоваю А. Т. Кірсанава. „Запіскі Бел. Дз. Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі“, выпуск № 9—1925 г.

# ЧАСТКА II.

## Асноўны капітал на гэктар балота.

Пераходзячы да вывучэньня і дэталёвай распрацоўкі эканамічных фактараў культуры балот, трэба спыніцца раней за ўсё на элемэнтах, з якіх складаюцца асноўныя выдаткі гаспадаркі. Сюды прыходзіцца аднесьці выдаткі на мэліорацыю, будынак і нярухомы інвэнтар. Што-ж датычыцца жывога інвэнтару, дык дзеля прастаты разьлікаў я яго ня ўводжу ў свае разрахункі, а абмяжоўваюся толькі той каштоўнасьцю працоўнага дню, якая вылічана на падставе гадавога ўтрыманьня каня.

### а) Вечныя мэліорацыі.

Выдаткі на мэліорацыі я падзяляю на дзьве часткі: 1) **на вечныя мэліорацыі**, выдаткі якіх прылучаюцца непасрэдна да каштоўнасьці тарпяніка і не амартызуюцца, а самі мэліорацыі служаць вечна, ці, праўдзівей кажучы, да таго часу, пакуль існуе гаспадарка і скарыстоўвае мэліораваны балотны вучастак па простым яго прызначэньні; 2) **на мэліорацыі**, якія праз шэраг гадоў павінны быць нанава **аднОўлены**, гэта значыць, што гэты від мэліорацыі падлягае **штогодняму пагашэньню**. Да вечных мэліорацый адносяцца наступныя выдаткі:

Вечныя мэліорацыі.
Ewige Meliorationen.

Табліца № 3.
Tabelle № 3.

| №<br>Laufende Nummer | Выдаткі на гэктар<br>Ausgaben pro ha. | СУМА SUMME<br>Руб.<br>Rub. | <br>Кап.<br>Kop. |
|---|---|---|---|
| 1 | Досьлед і складаньне канчатковага проэкту абсушкі<br>Untersuchungen und Aufstellung des engiltigen Entwässerungsplanes | 1 | 66 |
| 2 | Расцяробка і раскарчоўка дзікага балота .<br>Reinigen von Sträuchern und Roden des unberührten Morastes | 7 | 20 |
| 3 | Першае ўзорваньне дзікага балота пасьля раскарчоўкі:<br>Erstes Umstossen des Morastbodens nach dem Roden | | |
| | а) 9 працоўных дзён каня<br>a) 9 Pferdearbeitstage . . | 11 | 25 |
| | б) 4,5 дня працаўніка<br>b) 4,5 Arbeitstage eines Arbeiters . . | 4 | 50 |
| | в) 5 дзён працы жанчыны ці падлетка<br>w) 5 Arbeitstage von Frauen oder Minderjährigen | 3 | 75 |

| № Laufende Nummer | Выдаткі на гэктар Ausgaben pro ha. | СУМА SUME | |
|---|---|---|---|
| | | Руб. Rub. | Кап. Kop. |
| 4 | Выкарчоўка пнёў за плугам пры першым узорваньні—10 працаўнікоў. Ausroden der Stümpfe hinter dem Pfluge beim ersten Ackern—10 Arbeiter | 10 | — |
| 5 | Збытачная праца другога ўзорваньня, якая пры далейшым узорваньні тарпяніка не патрабуецца: Mehrarbeit des zweiten Ackerns, die beim folgenden Ackern des Moorbodens nicht erfo rderlich ist: | | |
| | 1) працоўны дзень каня 1) Ein Pferdearbeitstag | 1 | 25 |
| | 2) працоўны дзень працаўніка 2) Arbeitstag eines Arbeiters | 1 | — |
| | 3) працоўны дзень жанчыны 3) Frauenarbeitstag | — | 75 |
| | Разам Zusammen | 41 | 36 |

Процанты на капітал у вечных мэліорацыях, з разрахунку 5% гадавых, складуць **2 руб. 7 кап.** на гэктар.

Выдаткі, якія аднесены да вечных мэліорацый, ні ў якім выпадку нельга аднесьці за рахунак сельска-гаспадарчых расьлін на торпе **засева першых гадоў**. Іх нельга адносіць і да тых **выдаткаў**, якія падлягаюць **пагашэньню**. У першым выпадку нельга гэтага зрабіць таму, што гэтыя выдаткі зроблены на **грунтоўнае паляпшэньне балотнага вучастка**, і не пагашаюцца на працягу аднаго году, а значыцца і **ўся каштоўнасьць** гэтай мэліорацыі не павінна ўвайсьці **ў каштоўнасьць сельска-гаспадарчых расьлін** засева **першых гадоў**.

У другім выпадку нельга адносіць таму, што выдаткі на грунтоўнае паляпшэньне больш **не паўтараюцца**, калі плошча будзе знаходзіцца пад тымі сельска-гаспадарчымі ўгодзьдзямі **дзеля якіх** рабілася **грунтоўнае паляпшэньне балотнае глебы**. У такім выпадку выдаткі на вечныя мэліорацыі далучаюцца да агульнай каштоўнасьці тарпяніка непасрэдна і павышаюць каштоўнасьць балотнага пляцу на суму роўную капіталізаванай рэнце, якая атрымоўваецца на затрачаны капітал, а значыцца, **ня будзе падлягаць і штогодняму пагашэньню.** На зробленыя выдаткі трэба толькі налічваць штогоднія процанты на капітал, якія і будуць штогодна ўваходзіць у каштоўнасьць сельска-гаспадарчых прадуктаў. Штогоднія процанты на капітал, які выдадзен на вечныя мэліорацыі, і будуць складаць **толькі адзіныя штогоднія выдаткі па вечнай мэліорацыі,** вядома, за выключэньнем адначасовых выдаткаў на самую мэліорацыю.

Перш чым перайсьці да другога віду мэліорацыі, трэба спыніцца на тых агульных умовах, якія рабілі ўплыў на выдаткі па мэліорацыі. Галоўная магістраль праведзена праз увесь Камароўскі балотны масыў да ракі Сьвіслачы. Агульны працяг магістралі 3830 мэтраў*), сярэдняя глыбыня 1,4 мэтра, шырыня па дне 0,6 мэтра і па версе 4,4 мэтра. Каштоўнасьць магістралі на 1 гэктар абсушанай плошчы Камароўскага балота абышлася ў 17 руб. 23 кап., а каштоўнасьць шлюзаў 6 руб. 66 кап.

*) Гл. Э. І. Шыпэрка Запіскі БДЗІ Сельскае і Лясное Гаспадаркі выпуск № 9 „Матар'ялы па эканамічнай ацэнцы культуры балот паданых Камароўскай балотнай гаспадаркі“.

У гаспадарцы прыняты оптымальныя нормы абсушкі балота: адлегласьць паміж канавамі 32 мэтры, глыбіня 1 мэтр. і шырыня па дну 0,2 мэт.; адлегласьць паміж дрэнамі 20 мэт. і глыбіня 1,2 мэтра[1]).

**б) Адначасовыя выдаткі[2]) на прывядзеньне аднаго гэктара балота ў культурнае становішча і бягучыя выдаткі за год.**

1) Абсушка адкрытымі канавамі. Табліца № 4.
Entwässerung durch offene Kanäle. Tabelle № 4.

| Чарговы № Laufende Nummer. | Мэта выдаткаў Zu welchem Zwecke verauslagt. | Каштоўнасьць Kostenbetrag Руб. Rub. | Каштоўнасьць Kostenbetrag Кап. Kop. | % пагашэньня[3]) Tilgung. in % | % на бягуч. выдаткі[4]) % für laufende Ausgaben | % на капітал % vom Kapital | Усяго % гадав. выдаткаў Gezamtprozentsatz der Jahresausgaben | Гадавыя выдаткі Jahresausgaben Руб. Rub. | Гадавыя выдаткі Jahresausgaben Кап. Kop. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Вечныя мэлиорацыі Ewige Meliorationen . | 41 | 36 | — | — | 5 | 5.0 | 2 | 07 |
| 2 | Пабудова магістралі Bau einer Magistrale . | 23 | 46 | 2.5 | 5 | 5 | 12,5 | 2 | 93 |
| 3 | Пабудова шлюзаў Schleusenbau . . | 6 | 66 | 6 | 5 | 5 | 16.0 | 1 | 07 |
| 4 | Пабуд. шляхоў і мастоў Wege-u. Brückenbau | 12 | 80 | 3 | 5 | 5 | 13.0 | 1 | 66 |
| 5 | Пабуд. абсушальн. канаў Bau von Entwässerungs gräben | 84 | 14 | 2.5 | 5 | 5 | 12,5 | 10 | 52 |
| 6 | Пабуд. пераезд. праз канавы Bau von Kanalüberfahrten | 4 | 24 | 6 | 5 | 5 | 16,0 | — | 68 |
|  | Разам Zusammen . | 176 | 66 | — | — | — | — | 18 | 93 |
|  | Калі прыняць пад увагу, што пад абсушальнымі канавамі знаходзіцца 2,25% плошчы, то тады выдаткі будуць на 1 гэкт. карыснай плошчы . . . In Anbetracht dessen, dass die Trockengräben 2,25 % der Gesamtfläche einnehmen, belaufen sich die Kosten auf 1. ha Nutzfäche auf | 180 | 73 | — | — | — | — | **19** | **36** |

[1]) На 1 гэкт. патрабавалася ў сярэднім 480 мэтр. абсушальных канаў і 60 мэтр. калектараў. Ганчарная трубка ў 1 ф. каштавала 3 кап. Кубічны мэтр. дошчак каштаваў 23 руб. 60 кап. 1 мэтр. жордкі кашт. 1,25 кап. Хмызьняк для фашын браўся на Камароўскім балоце.

[2]) Скарыстаў даныя Э. Шыпэрка—„Матар'ялы па эканамічнай ацэнцы культуры балот па даных Камароўскай балотнай гаспадаркі з прадмоваю А. Т. Кірсанова". Запіскі Бел. Дз. Інстытуту № 9.

[3]) Проценты пагашэньня адкрытых канаў і дрэнажу ўзяты па даных Jllustr. Landwirtsch. Lexikon 1923 г. ад 1,5% да $3^1/_3$%.

[4]) Проценты на бягучыя выдаткі ўзяты па даных В. Бэрша „Руководство по культуре болот 1914 г.".

Табліца № 5.
Tabelle № 5.

## Абсушка фашынавым дрэнажом
## Entwässerung durch Faschinendrainage.

| Чарговы № Laufende Nummer | Мэта выдаткаў Zu welchem Zwecke verauslagt | Каштоўнасьць Kostenbetrag | | % пагашэньня Tilgung, in % | % на бягуч. выдаткі % für laufende Ausgaben | % на капітал % vom Kapital | Усяго % гадав. выдаткаў Gesamtprozentsatz der Jahresausgaben | Гадавыя выдаткі Jahresausgaben | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Руб. Rub. | Кап. Kop. | | | | | Руб. Rub. | Кап. Kop. |
| 1 | Вечныя мэліорацыі Ewige Meliorationen . | 41 | 36 | — | — | 5 | 5,0 | 2 | 07 |
| 2 | Пабудова магістралі Bau einer Magistrale . | 23 | 46 | 2,5 | 5 | 5 | 12,5 | 2 | 93 |
| 3 | Пабудова шлюзаў Schleusenbau . . | 6 | 66 | 6 | 5 | 5 | 16,0 | 1 | 07 |
| 4 | Пабудова дарог і мастоў Wege-u. Brückenbau | 12 | 80 | 3 | 5 | 5 | 13,0 | 1 | 66 |
| 5 | Вадапрыемнікі (адкрытыя канавы), для дрэнажнай сыстэмы . Offene Sammelkanäle für das Drainage-system | 11 | 83 | 2,5 | 5 | 5 | 12,5 | 1 | 48 |
| 6 | Падрыхтоўка фашын . Zurichten der Faschinen | 27 | 22 | 3 | 5 | 5 | 13,0 | 3 | 54 |
| 7 | Пабудова дрэнажных канаў . . . . . Bau der Drainagenkanäle | 48 | 38 | 3 | 5 | 5 | 13,0 | 6 | 29 |
| 8 | Падвозка, закладка і засыпка фашын . . Zufuhr, Einbetten und Zuschütten der Faschinen | 15 | 36 | 3 | 5 | 5 | 13,0 | 2 | — |
| 9 | Пабудова ўтокаў дрэн. Bau der Drainagenmündungen | — | 80 | 6 | 5 | 5 | 16 | — | 13 |
| | Разам Zusammen . | 187 | 87 | — | — | — | — | 21 | 17 |

Табліца № 6.
Tabelle № 6.

## Абсушка жардзяным дрэнажом.
## Entwässerung durch Stangendrainage.

| Чарговы № Laufende Nummer | Мэта выдаткаў Zu welche Zwecke verauslagt | Каштоўнасьць Kostenbetrag | | % пагашэньня Tilgung. in % | % на бягуч. выдаткі % für laufende Kosten | % на капітал % vom Kapital | Усяго % гадав. выдаткаў Gesamtprozentsatz der Jahresausgaben | Гадавыя выдаткі Jahresausgaben | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Руб. Rub. | Кап. Кор. | | | | | Руб. Rub. | Кап. Кор. |
| 1 | Вечныя мэліорацыі Ewige Meliorationen . . | 41 | 36 | — | — | 5 | 5,0 | 2 | 07 |
| 2 | Пабудова магістралі Bau einer Magistrale . | 23 | 46 | 2,5 | 5 | 5 | 12,5 | 2 | 93 |
| 3 | Пабудова шлюзаў Schleusenbau . . | 6 | 66 | 6 | 5 | 5 | 16,0 | 1 | 07 |
| 4 | Пабудова шляхоў і мастоў . . . . Weg-und Brückenbau | 12 | 80 | 3 | 5 | 5 | 13,0 | 1 | 66 |
| 5 | Вадапрыемнікі (адкрытыя канавы) для дрэнажнай сыстэмы. . Offene Sammelkanäle für das Drainagesystem | 11 | 83 | 2,5 | 5 | 5 | 12,5 | 1 | 48 |
| 6 | Пабудова дрэнажных канаў. . . . . Bau der Drainagenkanäle | 48 | 38 | 2,5 | 5 | 5 | 12,5 | 6 | 05 |
| 7 | Покупка жордак для дрэн. Einkauf der Drainagenstangen | 44 | — | 2,5 | 5 | 5 | 12,5 | 5 | 50 |
| 8 | Падвозка, закладка і засыпка жардз. дрэн. Zufuhr, Einbetten und Zuschütten der Stangendrainage | 18 | 17 | 2,5 | 5 | 5 | 12.5 | 2 | 28 |
| 9 | Пабудова ўтокаў дрэн. Bau der Drainagenmündungen | — | 80 | 6 | 5 | 5 | 16 | — | 13 |
| | Разам Zusammen . . | **207** | **46** | — | — | — | — | **23** | **17** |

Табліца № 7.
Tabelle № 7.

## Абсушка драўляна-трубкавым дрэнажом.
## Entwässerung durch Holzrohrdrainage.

| Чарговы № Laufende Nummer | Мэта выдаткаў — Zu welche Zwecke verauslagt | Каштоўнасьць Kostenbetrag | | % пагашэньня Tilgung. in % | % на бягуч. выдаткі % für laufende Ausgaben | % на капітал % vom Kapital | Усяго % гадав. выдаткаў Gesamtprozentsatz der Jahresausgaben | Гадавыя выдаткі Jahresausgaben | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Руб. Rub. | Кап. Кор. | | | | | Руб. Rub. | Кап. Кор. |
| 1. | Вечныя мэліорацыі Ewige Meliorationen . | 41 | 36 | — | — | 5 | 5,0 | 2 | 07 |
| 2. | Пабудова магістралі Bau einer Magistrale . | 23 | 46 | 2,5 | 5 | 5 | 12,5 | 2 | 93 |
| 3. | Пабудова шлюзаў Schleusenbau . . | 6 | 66 | 6 | 5 | 5 | 16,0 | 1 | 07 |
| 4. | Пабуд. шляхоў і мастоў Weg-und Brückenbau | 12 | 80 | 3 | 5 | 5 | 13,0 | 1 | 66 |
| 5. | Вадапрыемнікі (адкрытыя канавы), для дрэнажнай сыстэмы . . Offene Sammelkanäle für das Drainagesystem | 11 | 83 | 2,5 | 5 | 5 | 12,5 | 1 | 48 |
| 6. | Покуп дошчак і цьвікоў Einkauf von Brettern und Nägeln | 72 | 20 | 2,5 | 5 | 5 | 12,5 | 9 | 03 |
| 7. | Пабудова дрэнажных канаў . . . . . Bau der Drainagenkanäle | 48 | 38 | 2,5 | 5 | 5 | 12,5 | 5 | 08 |
| 8. | Падрыхтоўка дрэн. Zurichten der Drainagen | 15 | 12 | 2,5 | 5 | 5 | 12,5 | 1 | 90 |
| 9. | Падвозка, закл. і засыпка дрэн. . . . Zufuhr, Einbetten und Zuschütten der Drainagen | 14 | 46 | 2,5 | 5 | 5 | 12,5 | 1 | 81 |
| 10. | Пабудова ўтокаў дрэн. Bau der Drainagenmündungen | — | 80 | 6 | 5 | 5 | 16,0 | — | 13 |
| | Разам Zusammen . | **247** | **07** | — | — | — | — | **27** | **16** |

Табліца № 8.
Tabelle № 8.

## Абсушка ганчарна-трубкавым дрэнажом.
## Entwässerung durch Tonrohrdrainage.

| Чарговы № Laufende nummer | Мэта выдаткаў Zu welchem Zwecke verauslagt | Каштоўнасьць Kostenbetrag | | % пагашэньня Tilgung in % | % на бягуч. выдаткі % für laufende Kosten | % на капітал % vom Kapital | Усяго % гадав. выдаткаў Gesamtprozentsatz der Jahresausgaben | Гадавыя выдаткі Jahresausgaben | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Руб. Rub. | Кап. Kop. | | | | | Руб. Rub. | Кап. Kop. |
| 1. | Вечныя мэліорацыі Ewige Meliorationen . | 41 | 36 | — | — | 5 | 5,0 | 2 | 07 |
| 2. | Пабудова магістралі Bau einer Magistrale . | 23 | 46 | 2,5 | 5 | 5 | 12,5 | 2 | 93 |
| 3. | Пабудова шлюзаў Schleusenbau . . | 6 | 66 | 6 | 5 | 5 | 16 | 1 | 07 |
| 4. | Пабуд. шляхоў і мастоў Weg-und Brückenbau | 12 | 80 | 3 | 5 | 5 | 13 | 1 | 66 |
| 5. | Вадапрыемнікі (адкрытыя канавы) для дрэнажнай сыстэмы . . Offene Sammelkanäle für das Drainagesystem | 11 | 83 | 2,5 | 5 | 5 | 12,5 | 1 | 48 |
| 6. | Покуп дрэнажн. трубак Einkauf der Holzkasten-drainage | 57 | 18 | 1.5 | 5 | 5 | 11,5 | 6 | 58 |
| 7. | Покуп аполкаў на падкладкі пад дрэн. трубкі Einkauf von Schalbrettern zur Unterlage unter die Drainagenröhren | 24 | 30 | 1,5 | 5 | 5 | 11,5 | 2 | 78 |
| 8. | Пабудова дрэн. канаў Bau der Drainagenkanäle | 48 | 38 | 1,5 | 5 | 5 | 11,5 | 5 | 56 |
| 9. | Падвозка, закладка і засыпка дрэн. . . . Zufuhr, Einbetten und Zuschütten der Drainagen | 31 | 07 | 1,5 | 5 | 5 | 11,5 | 3 | 50 |
| 10. | Пабудова ўтокаў дрэн. Bau der Drainagenmündungen | — | 80 | 6 | 5 | 5 | 16 | — | 13 |
| | Разам Zusammen . | 257 | 84 | — | — | — | — | 27 | 76 |

Табліца № 30.
Tabelle № 30.

ліораванага балота.
melioriertem Moorboden.

| абсушцы: Trockenlegung | | Сярэднія выдаткі па трох відах абсушкі Durchschnittskosten bei den drei Entwässerungssystemen | | Рэнта з усей плошчы пры абсушцы: *) Rente von der Gesamtfläche bei Trokenlegung *) | | | | | | Сярэдняя рэнта па трох відах абсушкі Durchschnittsrente der drei Entwässerungsarten | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ганчарнатрубкав. дрэнажом Durch Tonrohrdrainage | | | | Адкрытымі канавамі Mit offenen Kanälen | | Фашынавым дрэнажом Durch Faschinendrainage | | Ганчарнатрускавым дрэнажом Durch Tonrohrdrainage | | | |
| Руб. Rub. | Кап. Kop. | Руб. Rub. | Кап. Kop. | Руб. Rub. | Кап. Kop. | Руб. Rub. | Кап. Kop. | Руб. Rub. | Кап. Kop. | Руб. Rub. | Кап. Kop. |
| 806 | 38 | 796 | 54 | 543 | 88 | 539 | 68 | 526 | 92 | 536 | 76 |
| 1978 | 69 | 1944 | 25 | 933 | 73 | 919 | 03 | 874 | 37 | 908 | 81 |
| 178 | 88 | 176 | 40 | 53 | 41 | 52 | 36 | 49 | 17 | 51 | 65 |
| 7681 | 26 | 7453 | 10 | 3994 | 64 | 3898 | 04 | 3504 | 56 | 3732 | 72 |
| 168 | 45 | 165 | 98 | 39 | 02 | 37 | 97 | 34 | 78 | 37 | 25 |
| 1273 | 44 | 1238 | 72 | 353 | 50 | 338 | 80 | 294 | 14 | 328 | 86 |
| 2486 | 72 | 2407 | 52 | 541 | 76 | 508 | 16 | 406 | 08 | 485 | 28 |
| 164 | 71 | 162 | 23 | 9 | 15 | 8 | 10 | 4 | 91 | 7 | 39 |
| 179 | 21 | 174 | 28 | —2 | 16 | —4 | 26 | —10 | 64 | —5 | 71 |
| 940 | 97 | 914 | 97 | —47 | 04 | —58 | 07 | —91 | 57 | —65 | 57 |
| 186 | 93 | 181 | 98 | —15 | 42 | —17 | 52 | —23 | 90 | —18 | 95 |
| 16045 | 64 | 15615 | 97 | 6404 | 47 | 6222 | 29 | 5568 | 82 | 5998 | 49 |
| **184** | **96** | **180** | **01** | **73** | **83** | **71** | **73** | **64** | **19** | **69** | **15** |

расьліны даюць страту, а ітог—сума, з якой вылічына страта.

lichen Kulturpflanzen Verlust bringen. Die Endsumme versteht sich unter Abzug dieses Verlustes.

Табліца № 31.
Tabelle № 31.

Сярэдні*) прыбытак з гэктара тарпяніка, які заняты с.-гасп. расьлінамі.
Durchschnittsgewinn*) vom Hektar Moorboden bei Kultur landwirtschaftlicher Pflanzen.

| № чарговы Laufende Nummer | Назва сельска-гаспадарчых расьлін Benennung der landwirtschaftlichen Kulturpflanzen | Колькасьць гэктараў пад расьлінай Zahl der in Kultur stehenden ha | Валавы прыбытак з усёй плошчы Bruttoertrag der Gesamtfläche | | Гадавыя выдаткі на ўсю плошчу (зваротны капітал **) Jahresausgaben auf die Gesamtfläche (Betriebskapital) | | Прыбытак з усёй плошчы Gewinn auf die Gesamtfläche | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Руб. Rub. | Кап. Кор. | Руб. Rub. | Кап. Кор. | Руб Rub. | Кап. Кор. |
| 1 | Капуста Kohl | 2 | 1333 | 30 | 758 | 12 | 575 | 18 |
| 2 | Бульба Kartoffeln | 7 | 2853 | 06 | 1852 | 48 | 1000 | 58 |
| 3 | Бручка сталовая Tischkohlrüben | 0.5 | 228 | 05 | 167 | 96 | 60 | 09 |
| 4 | Мешанка канюшыны з цімафейкай Mischung von Klee und Timotheusgras. | 46 | 11185 | 82 | 7026 | 04 | 4159 | 78 |
| 5 | Турнэпс Turnips | 0,5 | 203 | 23 | 158 | 07 | 45 | 16 |
| 6 | Авёс Hafer | 7 | 1567 | 58 | 1182 | 93 | 384 | 65 |
| 7 | Брэменская мешанка траў Bremer Grasmischung | 16 | 2892 | 80 | 2336 | 80 | 556 | — |
| 8 | Морква кармавая Futtermöhren | 0,5 | 169 | 62 | 154 | 51 | 15 | 11 |
| 9 | Ячмень Gerste | 1 | 168 | 57 | 166 | 42 | 2 | 15 |
| 10 | Жыта азімае Winterroggen | 5,25 | 849 | 40 | 873 | 81 | —24 | 41 |
| 11 | Віка з аўсом на сена Wicke mit Hafer für Heu | 1 | 163 | 03 | 173 | 75 | —10 | 72 |
| | Разам Zusammen | 86,75 | 21614 | 46 | 14850 | 89 | 6773 | 57 |
| | Сярэдняя на гэктар Durchschnitt pro ha | 1 | 249 | 16 | 171 | 19 | 78 | 08 |

**1) Вытворчасьць адзінкі выдаткаў на тарпяніку 145,54%.**

**1) Die Produktivität einer Ausgabeneinheit beträgt auf Moorboden 145,54%.**

**2) Сярэдні прыбытак з гэктару тарпяніку складае 45,61% на зваротны капітал і 20,18% на сярэдні аснаўны капітал і 36,39% на мэліорацыйны капітал.**

**2) Der durchschnittliche Reingewinn auf Moorboden beträgt 45,61% vom Betriebskapital und 20,18% vom Anlagekapital.**

*) Па пяцёх абсушальных сыстэмах: адкрытымі канавамі, фашынавым, жардзяным, драўляна-трубкавым, ганчарна-трубкавым дрэнажамі.

*) Bei den fünf Entwässerungssystemen: offenen Kanälen, Faschinen, Stangen, Holzkasten und Tonrohrdrainagen.

**) Без уключэньня %% на зваротны капітал.

**) Ohne Einschluss der Prozente auf d. Betriebskapital.

Табліцы № 30 і 31 паказваюць нам надта цікавыя сярэднія лічбы з гэктара (валавога прыбытку, чыстага прыбытку гадавых выдаткаў, рэнты па розных абсушальных сыстэмах, вытворчасьці адзінкі выдаткаў і процанту прыбытку на зваротны і аснаўны капіталы), па якіх можна ўжо судзіць аб рэнтабельнацьці культуры балот. Бязумоўна, што гэтыя лічбы дадуць магчымасьць гаварыць ужо аб сапраўднай рэнце з гэктара мэліараванай глебы *).

Прыбытак усякага сельска-гаспадарчага прадпрыемства складаецца з двух асноўных частак: 1) прыбытку на капітал і 2) зямельнай рэнты**).

У гэтай працы падрабязна разгледжаны ўсе віды выдаткаў, як паасобных с.-г. расьлін, гэтак сама і па розных абсушальных сыстэмах. У лік выдаткаў на паасобныя с.-г. расьліны ўключалі ня толькі амартызацыйныя і бягучыя выдаткі, але і першую частку прыбытку с.-г. прадпрыемства, ці праўдзівей кажучы, процант на авансаваны капітал. Прыбытак першай часткі с.-г. прадпрыемства—процанты на капітал аднесены да гадавых выдаткаў паасобных с.-г. расьлін з тэй прычыны, што ён складае самастойны расход, які павінен увайсьці ў каштоўнасьць с.-г. прадукта з аднаго боку, а з другога і дзеля таго, каб была магчымасьць **яскравей вылучыць другую частку прыбытку сельска-гаспадарчага прадпрыемства—зямельную рэнту** дзеля атрыманьня якой і праводзіцца **грунтоўнае палепшаньне балотных глеб.**

Такім чынам мы бачым, што на мэліараваным Камароўскім балоце ва ўмовах дасьледчай гаспадаркі, чысты прыбытак пакрывае ня толькі ўсе гадавыя выдаткі з уключэньнем і процанту на капітал, а і дае досыць вялікі астатак—рэнту ***). Значыцца, інтэнсыўная культура балот рэнтабельна ****).

З табліцы № 32 відаць, што норма рэнты на мэліараваным балоце хістаецца ад 34,7% да 42,11%, як відаць, процант, нормы рэнты досыць вялікі. А мы ведаем, што паказчыкамі эканамічнай рацыянальнасьці ўсякага прадпрыемства служыць вытворчасьць адзінкі выдаткаў, а ў сельска-гаспадарчым прадпрыемстве пераважнае значэньне дзеля ацэнкі эканамічнай рацыянальнасьці яго будзе мець другі паказчык—норма рэнты.

Калі гэта так, дык мы бачым, што пры такім процанце нормы рэнты, інтэнсыўная культура балот ня толькі эканамічна рэнтабельна але і ўсе гадавыя выдаткі эканамічна рацыянальны.

З тэй-жа табліцы відаць, што процант на мэліарацыйны капітал хістаецца ад 24,9% да 40,85% і на асноўны капітал ад 14,98% да 21%. Зразумела, што пры такой вышыні процантаў на мэліарацыйны і аснаўны капіталы, затраты іх рацыянальны і эканамічна рэнтабельны; трэба заўважыць, што гэта процанты на капіталы только рэнты, а процанты на капіталы мы ўжо раней вылічылі і аднесьлі іх да штогодных выдаткаў; значыцца, калі прыняць пад увагу гэтыя восем процантаў, дык процанты чыстага прыбытку на мэліарацыйны і асноўны капіталы павялічацца на гэтыя восем процантаў.

Такім чынам мы бачым, што ўсе выдаткі, як штогодныя, так і аднačасовыя, інačай кажучы, асноўныя капіталы на грунтоўнае паляпшэньне балотных зямель эканамічна рэнтабельны.

---

*) Раней у большасьці выпадкаў судзілі аб рэнтабельнасьці культуры балот па параўнальнай ураджайнасьці ці валаваму прыбытку мэліараванай глебы з немэліараванай.

**) Калі ня лічыць прадпрыемскага прыбытку.

***) Маса рэнты, якая атрымоўваецца на мэліараваным Камароўскім балоце, большая падатковай рэнты на гарадзкую зямлю, якая знаходзіцца пад агародамі і драўлянымі будынкамі (г. Менску) ад 2.4 да 2.7 раза.

****) Эканамічную рэнтабельнасьць культуры балот глядз. на наступнай старонцы.

Табліца № 32.
Tabelle № 32.

Рэнтабельнасьць розных капіталаў на тарпу.
Rentabilität der verschiedenen Kapitalsarten auf Moorland.

| № чарговы Laufende Nummer | Назва абсушальных сыстэм Bezeichnung des Entwässerungs-systems | Маса рэнты з гэкт. тарфяніка Rentenmasse von einem ha Moorland | | Матар'яльныя выдаткі на гэктар Materialausgaben auf einen ha | | Норма рэнты на тарпяніку Rentennorm auf Moorland | Мэліярацыйны капітал на гэктар балота Meliorationskapital auf einen ha Moorland | | 0/0% рэнты на мэліярацыйны капітал 0/0 der Rente auf das Meliorationskapital | Асноўны капітал на гектар тарпяніка Grundkapital auf einen ha Moorland | | 0/0% рэнты на асноўны капітал на тарпу 0/0 der Rente auf das Anlagekapital auf Moorland |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Руб. Rub. | К. K. | Руб. Rub. | К. K. | | Руб. Rub. | К. K. | | Руб. Rub. | К. K. | |
| 1 | Ганчарна-трубкавы дрэнаж . . Tonrohrdrainage | 64 | 19 | 184 | 96 | 34,7 | 257 | 84 | 24,9 | 428 | 62 | 14.98 |
| 2 | Фашынавы дрэнаж Faschinendrainage | 71 | 73 | 177 | 43 | 40,43 | 178 | 87 | 38,13 | 358 | 65 | 20,0 |
| 3 | Адкрытыя канавы Offene Kanäle | 73 | 83 | 175 | 33 | 42,11 | 180 | 73 | 40,85 | 351 | 51 | 21,0 |
| | Сярэдняе па трох сыстэмах . . Durchschnitt der drei Systeme | 69 | 15 | 180 | 01 | 38,41 | 216*) | 20 | 31,98 | 386 | 97 | 17,87 |

Глядзі дыяграму № 3.
Siehe Diagramm № 3.

Гэтая табліца паказвае, што як маса рэнты, таксама і норма рэнты павялічваецца ад абсушкі ганчарна-трубковым дрэнажом да абсушкі адкрытымі канавамі, іначай кажучы, павялічваецца амаль адваротна-прапарцыянальна аснаўным выдаткам. Гэта пацьвярджае думку праф. Н. С. Фралова**), дзе ён кажа, што вышыня рэнты залежыць ад натуральных уласьцівасьцяў зямельнага плацу—„размер затрат может не влиять на высоту ренты в силу целого ряда причин, зависящих от природных свойств участка; те из них, на которых произведены более сложные и дорогие мелиорации, в конце концов дадут ренту не более высокую, а может быть и более низкую, чем участки, где произведены самые примитивные работы“. Трэба толькі разумець гэта ў сэнсе выдаткаў на грунтоўнае паляпшэньне пры іншых роўных умовах і ў межах тэхнічнай рацыянальнасьці абсушкі, а ня ў тым сэнсе, што ў адных умовах вадапрыемнікі бліжэй, а ў другіх далей.

---

*) Сярэдні капітал па пяцёх відах абсушальных сыстэм.
*) Mittleres Kapital von fünf Trockenlegungssystemen.
**) Запіскі Горацкага С.-Г. Інстытуту, том № 1, стар. 161.

Дыяграма №3
Диаграмма №3

# Рэнтабельнасьць інтэнсыўнай культуры балот.

## Рентабельность интенсивной культуры болот.



## Цана мэліораванага тарпяніка.

Капіталізуючы рэнту пры паасобных абсушальных сыстэмах з разьліку 5% гадавых, мы атрымаем ніжэйпаказаную (вылічаную) каштоўнасьць гэктара мэліораванага балота, на якую ён павялічыўся пасьля зробленых выдаткаў на грунтоўнае палепшаньне дзікага і зусім беспрыбытковага балота.

Табліца № 33.
Tabelle № 33.

Вылічаная каштоўнасьць гэктара мэліораванага балота.
Errechneter Wert eines ha meliorierten Moorlandes.

| №№ па чарзе Laufende Nummer | Назва абсушальных сыстэм Bezeichnung des Entwässerungssystems | Рэнта Rente Р. R. | К. K. | Агульн. множн. Allgemeiner Multiplikator | Вылічаная каштоўнасьць гэкт. тарпян. Errechneter Wert eines ha meliorierten Moorbodens Руб. Rub. | Кап. Kop. | Мэліорацыйны капітал Meliorationskapital Руб. Rub. | Кап. Kop. | У колькі разоў выліч. кашт. больш мэліор. капіталу Das Wievielfache des Meliorationskapitals stellt der errechnete Wert dar |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Ганчар.-трубкав. дрэнаж Tonrohrdrainage | 64 | 19 | 20 | 1283 | 80 | 257 | 84 | 4,98 |
| 2 | Фашынавы дрэнаж . . Faschinendrainage | 71 | 73 | 20 | 1434 | 60 | 187 | 87 | 7,64 |
| 3 | Адкрытыя канавы . . Offene Kanäle | 73 | 83 | 20 | 1476 | 60 | 180 | 73 | 8,17 |
| 4 | Сярэдн. па трох сыстэм. Durchschnitt von drei Systemen | 69 | 15 | 20 | 1383 | — | 216 | 20*) | 6,39 |

Гэта табліца паказвае нам, на якую суму павялічваецца каштоўнасьць гэктара беспрыбытковага балота пасьля грунтоўнага паляпшэньня яго і ў колькі разоў яна больш мэліораванага капіталу—гэта па-першае, а па-другое, яна адзначае надта цікавую залежнасьць вылічанай каштоўнасьці грунтоўна палепшанага балота ад мэліорацыйнага капіталу: вытвараюцца розныя выдаткі асноўнага капіталу на грунтоўнае палепшаньне балота і на зусім аднолькавыя вучасткі, а каштоўнасьць іх у выніку грунтоўнага паляпшэньня атрымоўваецца розная амаль адваротна-прапарцыянальна мэліорацыйнаму капіталу. Тлумачыцца гэта тым, што каштоўнасьць балотнага вучастка павялічваецца не на суму затрачаных капіталаў, а на капіталізаваную рэнту. А вядома, што маса рэнты адваротна-прапарцыянальна расходам па капіталу**). Гэта грунтоўна адрозьнівае асноўныя выдаткі на зьмяненьне натуральных умоў вучастку зямлі, ад тых выдаткаў, якія ўкладваюцца пры інтэнсыфікацыі гаспадаркі і толькі на суму якіх павялічваецца зямельны вучастак. Пэўна-ж адрозьнівае іх і тое, што ў першым выпадку капіталы не аддзялімы ад зямлі, а ў другім выпадку яны больш-менш паддаюцца перасоўваньню з аднаго месца на другое (з аднае гаспадаркі ў другую).

Цяпер разгледзім від нашай рэнты і прычыну яе зьяўленьня пасьля грунтоўнага паляпшэньня балота.

*) Сярэдні капітал па пяцёх абсушальных сыстэмах.
*) Mitleres Kapital von fünf Entwässerungssystemen.
**) На абсушку ганчарна-трубкавым дрэнажом патрабуецца значна больш выдаткаў, але можа гэта часовае зьявішча і з пашырэньнем ганчарнай прамысловасьці на Беларусі каштоўнасьць ганчарна-трубкавага дрэнажу паменшыцца і зробіць яго больш рэнтабельным у параўнаньні з іншымі дрэнажамі.

## Мэліорацыйная рэнта.

Спыняючыся на прычыне зьяўленьня рэнты на балотным вучастку зямлі, які мы разглядаем, трэба падкрэсьліць, што ён, як было відаць ужо раней да грунтоўнага паляпшэньня рэнты, не даваў і даў яе толькі пасьля таго, як была ўтворана мэліорацыя. Значыцца, рэнта, якая атрымоўваецца на Камароўскім балоце, ня ёсьць першая форма дыфэрэнцыяльнай рэнты, гэта значыць, што яна атрымоўваецца не ад натуральнай урадлівасьці глебы і не ад прасторавага месца палажэньня яе ў адносіне да рынку.

Гэтая рэнта не зьяўляецца вынікам featureрознай вытворчасьці паступовых затрат на адзін вучастак, таму што яна атрымоўваецца, па-першае, у выніку першых затрат, а па-другое, паступовыя затраты не паляпшаюць грунтоўна натуральных асаблівасьцяў зямельнага вучастку і не пераводзяць яго ў вышэйшую катэгорыю (высший разряд) зямлі па багацьцю, што мы маем у выніку асноўных затрат на мэліорацыю балотнага вучастка зямлі.

І ўрэшце гэта рэнта ня ёсьць вынік інтэнсыфікацыі данага вучастку тарпяніка таму, што рэнта, якая ўзрастае ў выніку інтэнсыфікацыі зямельнага вучастку, не застаецца стала дзеля гэтага вучастка, а вельмі моцна залежыць ад рыначнай кон'юнктуры і само існаваньне гэтай рэнты абумоўлена паступовымі і амаль бязупыннымі выдаткамі.

У такім выпадку, рэнта, якая атрымоўваецца ва ўмовах дасьледчай гаспадаркі Балотнай Станцыі, зьяўляецца нейкім другім відам рэнты, які адрозьніваецца ад усіх вышэй разгледжаных відаў і якая называецца па выразу праф. Н. С. Фралова—мэліорацыйнай рэнтай*). І атрымоўваецца яна не таму, што затрачаны капітал у якім-бы там ні было відзе, а таму, што ў выніку выдаткаў на грунтоўнае паляпшэньне зямельнага вучастка вызываюцца да дзеяньня тыя прыродныя багацьці вучастка, якія да ўтварэньня мэліорацыі не праяўлялі свае ўласьцівасьці, а значыцца і не давалі зямельнай рэнты, якую па сутнасьці справы вучастак мог даваць і даў, як толькі былі зроблены асноўныя выдаткі на грунтоўнае паляпшэньне прыродных умоў вучастка на больш-менш працяглы тэрмін з чыста тэхнічнай мэтай, гэта значыць паставіць расьлінаводзтва ў больш спрыяючыя ўмовы да асноўных фактараў роста: вільгаці, паветра (воздуху) глебы, цяплу, структуры глебы і г. д.

Але трэба заўважыць, што тэхніка і эканоміка ставяць сабе розныя мэты. Тэхніка імкнецца да атрыманьня як мага большай масы прадуктаў з адзінкі карыснай плошчы. У такім выпадку, тэхніка для атрыманьня большай колькасьці прадукта можа ўтварыць і мэліорацыю. А эканоміка імкнецца да здабываньня адзінкі масы прадукта, як мага з меншымі выдаткамі, значыцца, з эканамічнага пункту погляду, усякае прадпрыемства можна ўтварыць толькі тады, калі яно будзе эканамічна карысна, значыцца, і мэліорацыя будзе рацыянальна тады, калі яна будзе рэнтабельна, гэта значыць, калі ў выніку яе ўтварэньня зямельны вучастак будзе даваць такі прыбытак, якім магчыма ня толькі пакрыць усе выдаткі па асноўнаму і зваротнаму (авансаванаму) капіталу, але і будзе заставацца нейкі астатак—рэнта на мэліорацыйны капітал. Прыбытак, які атрымоўвае дасьледчая гаспадарка на Кама-

*) Запіскі Горацкага С.-Г. Інстытуту, т. 1.

роўскім балоце пакрывае ня толькі амортызацыйныя і бягучыя выдаткі году, але яшчэ дае і досыць вялікі астатак—мэліорацыйную рэнту. Але такая рэнта будзе атрымоўвацца толькі ў тым выпадку, калі бярэцца пад грунтоўнае паляпшэньне зямельны вучастак, які сам па сабе не даваў ніякай рэнты, інакш кажучы, нерэнтабельны вучастак. А калі бярэцца пад мэліорацыю балота, якое дае хоць які-небудзь прыбытак, дык мэліорацыйная рэнта паменшыцца на суму, якая будзе роўна чыстаму прыбытку да грунтоўнага паляпшэньня.

Тлумачыцца гэта тым, што ніякія выдаткі на грунтоўнае паляпшэньне прыродных уласьцівасьцяў зямельнага вучастку ня могуць павялічыць рэнту звыш таго, што можа даць зямельны вучастак па сваіх потэнцыяльных прыродных багацьцях.

Пасьля грунтоўнага паляпшэньня балотнае глебы, калі будуць павялічаць яшчэ выдаткі, дык яны будуць даваць рэнту, якая будзе адпавядаць усякай інтэнсыфікацыі гаспадаркі, гэта значыць, што зямельны вучастак, калі і будзе пераходзіць у вышэйшую катэгорыю глебы па вартасьці, дык толькі па ўрадлівасьці і ні ў якім выпадку не па багацьцю, як гэта было пры выдатках на грунтоўнае паляпшэньне прыродных умоў земельнага вучастку і будзе трымацца гэты вучастак на такой вышыні па якасьці да таго часу, пакуль будзе спрыяць рыначная кон'юнктура і пакуль будуць прадоўжвацца ўклады капіталаў у данае прадпрыёмства. І пры тым, гэты капітал у той ці іншай меры можна амаль у любы час вынесць з вытворчасьці, чаго ўжо ніякім чынам нельга зрабіць пры выдатках на грунтоўнае паляпшэньне. Гэта зусім зразумела, бо ўсё тое, на што зроблены выдаткі пры грунтоўным паляпшэньні вучастку, само па сабе цаны ня мае, а цэняцца гэтыя пабудовы толькі таму, што ў выніку іх атрымоўваецца рэнта, апрача таго, мэліорацыйныя пабудовы і не аддзялімы ад той зямельнай плошчы, на якой зроблена грунтоўнае паляпшэньне.

## Рэнта з прыбытковага балота.

Дзеля вылічэньня рэнты на вучастках Камароўскага балота, якія так ці інакш скарыстоўваліся да грунтоўнага паляпшэньня іх, прымем за сярэдні ўраджай дзікага сена з гэктара 738 клг. (45 пуд.), лічачы па 3,05 кап. за клг. Гэта складзе, пасьля выключэньня ўсіх гадавых выдаткаў, 14 руб. 53 кап. рэнты. Але такая рэнта, мабыць, не атрымоўваецца, бо пры ўсім тым недахопе сена, які можна прасачыць на Менскім рынку, і вялікім беспрацоўі, нават лепшыя сенажаці на Камароўскім балоце з вялікай цяжкасьцю здаюцца на палавінную частку. У такім выпадку рэнта пасьля выключэньня падаткаў складзе 11 руб. 74 кап. з гэктара, а арэндная плата (даваеннага часу), як было відаць раней, была 4 руб. 52 кап. за гэктар. Калі мы цяпер возьмем сярэднюю суму з гэтых трох выпадкаў, дык тады рэнта складзе 10 руб. 26 коп. з гэктара, гэтая сума й будзе адпавядаць больш-менш сапраўднай рэнце, якая магла быць на лепшых вучастках Камароўскага балота.

З наступнай табліцы відаць рэнта і вылічаная каштоўнасьць гэктара тарпяніка, на якую ён павялічыўся пасьля мэліорацыі, а таксама і ў колькі разоў дадатковая каштоўнасьць больш першапачатковай яго каштоўнасьці.

Табліца № 34.
Tabelle № 34.

Рэнта і каштоўнасьць, на якую павялічыўся мэліяраваны гэктар тарпяніка.
Renten und Wertzuwachs auf einen ha meliorierten Moorlandes.

| №№ па чарзе Laufende Nummer | Назва абсушальных сыстэм Bezeichnung des Entwässerungssystems | Агульная мэліярацыйная рэнта Allgemeine Meliorationsrente | | Рэнта да ўтварэньня мэліярацыі Rente vor der Melioration | | Рэнта, на якую павяліч. тарпян. пасьля мэліярацыі Rentenzuwachs nach der Melioration | | Агульны множнік Allgemeiner Multiplikator | Вылічаная каштоўнасьць гэктара тарпян. да ўтварэньня мэліярацыі Errechneter Wert eines ha Moorlandes vor der Melioration | | Вылічаная сума, на якую павялічылася каштоўнасьць пасьля ўтварэньня мэліярацыі Errechneter Wertzuwachs nach Melioration | | У колькі разоў дадатковая каштоўнасьць гэкт. тарп. больш першапачатк. яго каштоўнасьці. Das Wievielfache des ursprünglichen Wertes bildet der Mehrwert eines ha meliorierten Torflandes. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Р. R | К. K. | Р. R. | К. K. | Р. R. | К. K. | | Р. R | К. K. | Р. R. | К. K. | |
| 1 | Ганчарна-трубкавы дрэнаж . . Tonrohrdrainage | 64 | 19 | 10 | 26 | **53** | **93** | 20 | 205 | 20 | **1078** | **60** | **5,25** |
| 2 | Фашынавы дрэнаж Faschinendrainage | 71 | 73 | 10 | 26 | **61** | **47** | 20 | 205 | 20 | **1229** | **40** | **6,0** |
| 3 | Адкрытыя канавы Offene Kanäle | 73 | 83 | 10 | 26 | **63** | **57** | 20 | 205 | 20 | **1271** | **40** | **6,2** |

## Магчымасьць павялічэньня рэнты.

Мэліяраваная рэнта, якую мы разглядзелі ў двух выпадках табліцы №№ 31 і 34, гэта значыць з зусім беспрыбытковага вучастка балота і з вучастка, які даваў некаторы прыбытак да ўтварэньня грунтоўнага паляпшэньня балота, атрымоўваецца пры данай арганізацыйнай форме паляводзтва дасьледчай гаспадаркі. А ў другой частцы было відаць, што ў існуючых севазваротах гаспадаркі прысутнічаюць с.-г. расьліны, якія даюць ня толькі невялічкі процант прыбытку, але нават даюць і страту, апрача таго, некаторыя стратныя с.-г. расьліны займаюць досыць вялікія плошчы ў прапорцыі с.-г. расьлін на тарпяніку. Значыцца, унёсшы карэктыў у асноўныя севазвароты гаспадаркі і асабліва ў сяміпольны ў сэнсе скарачэньня, як плошчы пад стратнымі с.-г. расьлінамі, таксама і саміх стратных с.-г. расьлін і пашырэньня плошчы пад больш рэнтабельнымі расьлінамі ў межах тэхнікі і рынка, можна значна павялічыць мэліярацыйную рэнту. Але зноў такі, гэтае павялічэньне рэнты будзе не на які небудзь дадатковы капітал, альбо тэхнічнае паляпшэньне, а ў межах таго прыроднага багацьця вучастка, якое выклікана да дзеяньня асноўнымі выдаткамі на грунтоўнае паляпшэньне балота. Зразумела, што такое становішча ня губляе магчымасьці атрыманьня дадатковай рэнты на паступовыя выдаткі капітала дзеля павышэньня ўрадлівасьці глебы.

---

# ВЫВАДЫ.

Падагульваючы вынікі сваёй працы, прыходжу да наступнага:

**І. Усе мэліорацыйныя пабудовы трэба падзяліць на два віды:**

**1) вечныя мэліорацыі, якія не амартызуюцца і на якія ня трэба налічваць процантаў пагашэньня;**

**2) мэліорацыі, якія падлягаюць амартызацыі і на якія трэба налічваць проценты.**

II. Фашынавы, а ў больш лясістых мясцовасьцях жардзяны дрэнажы ў беларускіх умовах зьяўляюцца эканамічна больш рацыянальнымі сыстэмамі дзеля абсушкі балота.

У мясцовасьцях з недахопам ляснога матар'ялу і адсутнасьцю хмызьняковых зарасьляў пэўна, што больш рэнтабельнай сыстымай будзе абсушка адкрытымі канавамі.

На працягу ўсёй гэтай працы лічбы зусім яскрава кажуць з пункту погляду эканамічнай рацыянальнасьці аб тым, што абсушка адкрытымі канавамі і фашынавым дрэнажом больш рэнтабельна.

Тлумачыцца гэта тым, што ў беларускіх умовах не разьвіта ганчарная прамысловасьць, вынікам чаго зьяўляецца надта вялікая каштоўнасьць ганчарных трубак.

Розьніца ў рэнтабельнасьці паміж абсушкай дрэнажом параўнаўча невялікая. І яе можна цалкам ігнараваць перад тэхнічнай рацыянальнасьцю абсушальнай сыстэмы. А дрэнажная сыстэма тэхнічна больш рацыянальна, чым адкрытыя канавы. Значыцца, на першым месцы застаецца дрэнажная абсушка і па эканамічнай рэнтабельнасьці—фашынавы дрэнаж.

III. Эканамічную рэнтабельнасьць сельска-гаспадарчых расьлін трэба разглядаць асобна ва ўмовах прадпрыемскай і працоўнай гаспадаркі па агульнай суме чыстага прыбытку і вытворчасьці адзінкі выдаткаў, аплаце працоўнага дню і ўмоўна—чыстаму прыбытку (глядзі рысунак № 1).

IV*). Па масе рэнты ва ўмовах Камароўскага балота першыя месцы займаюць наступныя сельска-гаспадарчыя расьліны: капуста, бульба, бручка, мешанка канюшыны з цімафейкай, турнэпс і авёс.

Па норме рэнты сельска-гаспадарчыя расьліны разьмяркоўваюцца наступным чынам: капуста, мешанка канюшыны з цімафейкай, бульба, бручка сталовая, авёс, турнэпс.

У працоўнай гаспадарцы з недахопам працоўнай сілы сельска-гаспадарчыя расьліны разьмяшчаюцца наступным парадкам: мешанка канюшыны з цімафейкай, капуста, авёс, бульба, бручка сталовая, турнэпс, ячмень, морква кармавая, жыта азімае і мешанка вікі з аўсом на сена.

У працоўнай гаспадарцы, якія мае ў лішку працоўную сілу, разьмяшчаюцца сельска-гаспадарчыя расьліны гэтак: капуста, бручка сталовая, турнэпс, бульба, морква кармавая, мешанка канюшыны з цімафейкай, авёс, ячмень, жыта азімае, віка-аўсяная мешанка на сена.

*) Сельска-гаспадарчыя расьліны разьмешчаны па іх зьмяншаючамуся значэньню.

Зразумела, што ступень рэнтабельнасьці тэй ці іншай с.-г. расьліны на балоце будзе зьмяняцца ў залежнасьці ад мясцовых умоў рынка. Але яны будуць займаць амаль заўсёды розныя месцы па сваёй рацыянальнасьці ў залежнасьці ад трох гаспадарчых умоў: прадпрыемская гаспадарка і працоўная гаспадарка з лішкам і недахопам працоўнай сілы.

V. а) Зьмяненьне дзесяціпольнага севазвароту гаспадаркай у бок павялічэньня траў за рахунак скарачэньня мала прыбытковых злакаў цалкам рацыянальна. Але ўвядзеньне брэменскай мешанкі траў у гаспадарчыя пасевы і на параўнаўча вялікія плошчы, пры наліччы мешанкі канюшыны з цімафейкай (мешанка Менскай Балотнай Станцыі), нельга лічыць рацыянальным. Увядзеньне яе ў савазварот цярпіма толькі з дасьледчай мэтай.

б) Сяміпольны севазварот можна дапусьціць, а ён з гэтай мэтай і дапушчан, толькі як экспэрымэнт на водны рэжым. У другім сэнсе ён не вытрымоўвае крытыкі, прысутнасьцю стратнай расьліны (жыта азімае) на цэлым полі.

VI. **Інтэнсыўная культура балот вельмі рэнтабельна.**

VII. Рэнта на мэліораваным балоце атрымоўваецца не таму, што затрачан капітал на яго паляпшэньне, а таму, што ў выніку яго затрат выклікаюцца да дзеяньня натуральныя багацьці балота, якія знаходзіліся ў потэнцыяльным становішчы і не давалі рэнты.

VIII. Каштоўнасьць мэліораванага вучастка не залежыць ад колькасьці выдаткаў на ўтварэньне мэліорацыйных пабудоў нават у межах тэхнічнай рацыянальнасьці.

IX. Каштоўнасьць мэліораванага тарпяніка павышаецца пасьля грунтоўнага паляпшэньня яго не на суму мэліорацыйнага капіталу, а на капіталізаваную рэнту.

X. **Сярэдні чысты прыбытак з гэктара тарпяніка 78 р. 8 к.**

XI. **Сярэдняя рэнта гэктара мэліораванага тарпяніка 69 р. 15 к.**

XII. **Вытворачасьць адзінкі выдаткаў на торпе 145,54 проц.**

XIII. **Сярэдняя аплата працоўнага дню расьлінаводзтвам на балоце хістаецца ад 4 р. 39 к. да 4 р. 65 к.** *).

XIV. **Сярэдні чысты прыбытак на торпе складае 45,61 проц. на зваротны капітал, 20,18 проц. на асноўны капітал і 36,39 проц. на мэліорацыйны капітал.**

XV. **Сярэдняя норма рэнты на торпе 38,41 проц.**

XVI. Культура балот сваімі надта вялікімі тэхнічнымі посьпехамі міжвольна зьвяртала ўвагу кожнага, хто з ёю пачынаў знаёміцца ў той ці іншай ступені. Вялікія ўраджаі на балоце рабілі ўплыў ня толькі ў спрыяючы бок, але і наадварот. Гэта значыць, што высокія ўраджаі сельска-гаспадарчых расьлін і амаль поўная адсутнасьць эканамічных даных па гэтым пытаньні прыводзіла да расчараваньня ў культуры балот. Нават шмат якія агрономы з надта вялікай кваліфікацыяй ня верылі ў карыснасьць і мэтазгоднасьць гэтае справы.

Цяпер можна быць упэўненым у тым, што, як капітал, затрачаны на грунтоўнае паляпшэньне натуральных умоў балотнай глебы, выклікае да дзеяньня яго потэнцыяльныя ўласьцівасьці, гэта значыць прыродныя багацьці, гэтак сама будуць вызваны да вельмі ўдзячнай працы, культуры балот, сялянскія працоўныя масы, дзяржаўнымі мерапрыемствамі і навуковымі дасягненьнямі ў галіне культуры балот.

Менск, студзень 1928 г.
Навукова-Дасьледчы Інстытут.

Вучоны Агранам **У. С. Лінeвіч.**

---

*) А па асобных с. г. расьлінах на торпе аплата працоўнага дню хістаецца ад 79 к. да 7 р. 14 к. (табл. № 28).

## РЕЗЮМЕ.

Вышеизложенная работа представляет собою экономический анализ сельско-хозяйственных культур, которые испытывались на торфянике Минской Болотной Опытной Станции с 1914 г. по 1926 год и общую экономическую оценку интенсивной культуры болот в белорусских условиях. Резюмируя данную работу, приходим к следующим выводам:

I. а) Фашинный дренаж, а в наиболее лесистых местах, жердяной дренаж, в белорусских условиях являются экономически более рациональными системами осушки болот.

в) В местах с недостатком лесного материала и отсутствием кустарниковых зарослей, наиболее дешевым и рациональным способом осушки будет система открытых канав.

с) Осушка гончарно-трубчатым дренажом менее рентабельна в белорусских условиях *), а осушка бутцовским дренажом по рентабельности занимает предпоследнее место.

II **). В условиях предпринимательского хозяйства, экономически более рентабельными с-х. культурами являются следующие (смотр. табл. № 1 и 22 и диаграммы—№ 1 и 2):

а) по массе ренты: 1) капуста, 2) картофель, 3) брюква столовая, 4) смесь трав (клевера с тимофеевкой), 5) турнепс и 6) овес;

в) по норме ренты: 1) капуста, 2) смесь трав (клевера с тимофеевкой), 3) картофель, 4) брюква столовая, 5) овес и 6) турнепс;

с) в условиях трудового хозяйства экономически более рациональны следующие с.-х. культуры (см. табл. № 27 и 28):

а) с недостатком рабсилы: 1) смесь трав (клевера с тимофеевкой), 2) капуста, 3) овес, 4) картофель, 5) брюква столовая и 6) турнепс;

б) с избытком рабочей силы: 1) картофель, 2) турнепс, 3) морковь кормовая, 4) капуста, 5) смесь трав (клевера с тимофеевкой), 6) брюква столовая и 7) овес.

III. Интенсивная культура болот в белорусских условиях экономически рентабельна и рациональна (см. таб. №№ 29 и 30 и диаграмму № 3).

IV. Средняя чистая прибыль с гектара **торфяника 78 р. 8 коп.**

V. Средняя рента с гектара торфяника **69 р. 15 коп.**

VI. Производительность единицы затрат на торфу **145,54 проц.**

VII. Средняя чистая прибыль на торфу составляет **45,61 проц. на оборотный капитал 20,18 проц. на основной капитал и 36,39 проц. на мелиорационный капитал.**

VIII. Средняя норма **ренты 38,41 проц.**

IX. Стоимость мелиорированного торфяника повышается после коренного улучшения его не на сумму мелиорационного капитала, а на **капитализированную ренту** (см. табл. № 31).

---

*) В виду большой дороговизны гончарных трубок и неразвитости гончарной промышленности в Белоруссии.

**) Сельско-хозяйственные культуры расположены по своему убывающему значению.

X. Средняя оплата рабочего дня полеводством на болоте колеблется от **4 руб. 39 коп. до 4 руб. 65 коп.**

XI. Останавливаясь на методике работы, укажем только на отдельные принципы ее. Прежде всего мы разделили все расходы по мелиорации на два вида:

1) **вечные мелиорации**, затраты на которые присоединяются непосредственно к стоимости торфяника и не амортизируются, а сама мелиорация служит вечно или вернее до тех пор пока существует хозяйство и продолжает использовать участок болота по прямому его назначению;

2) **мелиорации, которые по прошествии ряда лет должны быть заново восстановлены**, т. е. этот вид подлежит ежегодному погашению*).

XII. Расходы, отнесенные к вечной мелиорации, **нельзя относить на счет культур первых годов** потому, что эти затраты сделаны на коренное улучшение болотного участка, которые не погашаются в продолжение одного года, а, следовательно, и вся стоимость этой мелиорации не должна войти в стоимость с.-х. продуктов первых посевов.

**Их нельзя относить и к тем расходам, которые подлежат погашению** потому, что эти затраты на коренное улучшение больше не повторяются, если площадь будет находиться под сельско-хозяйственными угодьями. В таком случае затраты на вечную мелиорацию присоединяются к стоимости торфяника непосредственно и повышают ценность болотного участка на сумму, равную капитализированной ренте, которая получится после затраты капитала на мелиорацию участка, а, следовательно, не будет подлежать и ежегодному погашению. На затраченную сумму нужно начислять ежегодно проценты на капитал, которые и будут ежегодно входить в стоимость сельско-хозяйственных продуктов. Эти текущие проценты и будут единственными ежегодными расходами по вечной мелиорации, конечно, за исключением единовременных расходов на самую мелиорацию.

XIII. При исчислении годовых расходов по отдельным с.-х. культурам, мы относили не только все амортизационные и текущие расходы в году, но и проценты на авансированный капитал. Это делалось для того, чтобы выявить действительную рентабельность с.-х. культур с одной стороны, а с другой стороны и потому, что проценты на авансированный **) капитал являются необходимым расходом, сумма которого должна входить в стоимость с.-х. продуктов (смотр. табл. № 19).

XIV. Экономическую рациональность с.-х. культур на торфу мы рассматривали с четырех точек зрения: **по массе и норме ренты в условиях предпринимательского хозяйства, по оплате рабочего дня и условно-чистому доходу в условиях трудового хозяйства с избытком и недостатком рабочей силы** (смотр. чертеж № 1).

Ученый Агроном В. С. Линевич.

Минск, январь 1928 г.
Научно-Исследовательский Институт.

*) Единовременные затраты на вечные мелиорации (смотр. табл. № 3, а общие затраты на мелиорацию и годовые расходы смотр. табл. № № 4, 5, 6, 7, 8).
Затраты основного капитала на гектар торфяника смотр. табл. № 10.

**) Оборотный капитал.

## Zusammenfassung.

Die vorstehende Arbeit ist eine ökonomische Analyse der landwirtschaftlichen Kulturen, welche in der Moorwirtschaft (Moorversuchstation zu Minsk) von 1914 bis 1926 einer Untersuchung unterworfen wurden, und stellt ausserdem eine wirtschaftliche Bewertung intensiver Moorkultur in weissrussischen Verhältnissen dar. Wenn man die Ergebnisse vorliegender Arbeit zusammenfasst, so kommt man zu folgenden Schlüssen:

I. a) Faschinendrainage, in vorwiegend bewaldeter Gegend Stangendrainage, ist unter weissruthenischen Verhältnissen das ökonomisch rationellste Trockenlegungssystem von Moorboden.

b) In Gegenden, wo es an Holzmaterial mangelt und Strauchwuchs fehlt, ist Trockenlegung mit offenen Kanälen das billigste und rationellste Verfahren.

c) Die Anwendung der Tonrohrdrainage ist unter weissruthenischen Verhältnissen *) weniger rentabel. Butzendrainage nimmt inbezug auf Rentabilität die vorletzte Stelle ein.

II. **) Unter den durch Unternehmerwirtschaft gegebenen Verhältnissen sind die wirtschaftlich rentabeleren Kulturen folgende (s. Tabelle № 1 und 22 und Diagramme № 1 u. 2):

a) nach der Rentenmasse: 1) Kohl, 2) Kartoffel, 3) Tafelrübe, 4) Grasmischung (Klee mit Timothygras, 5) Turnips, 6) Hafer;

b) nach der Rentennorm: 1) Kohl, 2) Grasmischung (Klee mit Timothygras), 3) Kartofell, 4) Tafelrübe, 5) Hafer und 6) Turnips.

Bei Selbstbewirtschaftung sind folgende landwirtschaftliche Kulturen die rationelleren (s. Tab. № 27 und 28):

a) bei Mangel an Arbeitskräften: 1) Grasmischung (Klee und Timothygras) 2) Kohl, 3) Hafer, 4) Kartoffel, 5) Tafelrübe und 6) Turnips;

b) bei Überfluss an Arbeitskräften: 1) Kartoffel, 2) Turnips, 3) Futtermöhre, 4) Kohl, 5) Grasmischung (Klee und Timothygras) 6) Tafelrübe und 7) Hafer.

III. Intensive Moorboden Kultur ist unter weissruthenischen Verhältnissen rentabel und rationell (s. Tab. № 29 und 30 und Diagramm № 3).

IV. Der mittlere Reingewinn von 1-ha Moorboden beträgt 78,08 Rub.

V. Die mittlere Rente von 1-ha Moorland beträgt 69,15 Rub.

VI. Die Produktivität einer Ausgabeneinheit beträgt 145,54 proz.

VII. Der durchschnittliche Reingewinn im Torflande beträgt 45,61 proz. vom Betriebskapital und 20,18 proz. vom Grundkapital.

VIII. Die mittlere Rentennorm ist 38,41 proz.

IX. Der Wert des meliorierten Moorboden erhöht sich nach durchgreifender Verbesserung nicht um die Summe des Meliorationskapitales, sondern um die kapitalisierte Rente (s. Tab. № 31).

X. Die Feldarbeit auf Moorboden bezahlt sich bei Selbstbewirtschaftung durchschnittlich mit 4,39—4,64 Rub. pro Tag.

---

*) Im Hinblick auf den hohen Preis der Tonrohre und die niedrige Entwicklungsstufe dieses Industriezweiges in Weissruthenien.

**) Die landwirtschaftlichen Kulturen sind ihrem Wirtschaftlichkeitsgrad nach in absteigender Folge angeordnet.

XI. In dem wir zur Arbeitsmethode übergehen, wollen wir hier nur ihre einzelnen Prinzipien andeuten.

Vor allem haben wir alle Meliorationsausgaben in zwei Kategorien eingeteilt.

1. In Ausgaben für ewige Meliorationen, die unmittelbar zum Werte des Torfgrundstückes hinzugeschlagen werden, keiner Amortisation unterliegen und bei denen die Melioration selbst ewig bestehen bleibt oder genauer ausgedrückt, solange die Wirtschaft besteht und das Torfgrundstück seiner direkten Bestimmung gemäss bewirtschaftet wird.

2. In solche Meliorationen, die nach Verlauf einer Reihe von Jahren erneuert werden müssen, d. h., dass diese Kategorie jährliche Tilgung verlangt*).

XII. Die zur ewigen Melioration gehörigen Ausgaben dürfen unter keinen Umständen den Kulturen der ersten Jahre zu Lasten geschrieben werden. Auch dürfen sie nicht jenen Ausgaben zugezählt werden, die einer Tilgung unterliegen. Im ersten Falle darf das nicht getan werden, weil diese Ausgaben für eine durchgreifende Verbesserung des Torfgrundstückes gemacht werden, die nicht im Verlaufe eines Jahres getilgt werden können, woraus folgt, dass der Gesamtwert dieser Melioration nicht in den Wert der landwirtschaftlichen Produkte der ersten Aussaaten eingeschlossen werden darf.

Im zweiten Falle ist das nicht angängig, weil sich diese Ausgaben für eine durchgreifende Verbesserung nicht mehr wiederholen, solange sich die Fläche unter landwirtschaftlicher Bearbeitung befindet. In diesem Falle verschmelzen sich die Ausgaben der ewigen Melioration unmittelbar mit dem Werte des Torfgrundstückes und erhöhen den Wert desselben um eine der kapitalisierten Rente gleichkommende Summe, welche das angelegte Kapital bringt, folglich einer jährlichen Tilgung nicht unterliegt. Auf die verauslagte Summe müssen jedes Jahr Zinsen geschlagen werden, welche ihrerseits in den Wert der landwirtschaftlichen Produkte einbegriffen werden. Diese laufende Prozente sind somit die einzigen alljährlichen Ausgaben für ewige Melioration, natürlich mit Ausnahme der einmaligen Ausgaben für die Melioration selbst.

XIII. Bei der Berechnung der Jahresausgaben berücksichtigen wir nicht nur alle laufenden und Amortisationsausgaben, sondern auch die Verzinsung des Kapitalvorschusses. Es wurde das aus dem Grunde getan, um einerseits die wirkliche Rentabilität der landwirtschaftlichen Kulturen aufzuzeigen und weil sich anderseits eine Verzinsung des Kapitalvorschusses**) als notwendige Auslage erweist, deren Betrag in den Wert der landwirtschaftlichen Produkte eingeschlossen werden muss (s. Tab. № 19).

XIV. Die wirtschaftliche Rationalität der landwirtschaftlichen Kulturen auf Moorboden wurde von vier Gesichtspunkten aus erörtert: nach Rentenmasse und Rentennorm unter den Verhältnissen der Unternehmerwirtschaft, nach der Höhe in welcher sich der Arbeitstag bezahlt und nach dem bedingten Reinertrag bei Selbstbewirtschaftung mit genügenden und mangelnden Arbeitskräften (s. Zeichnung 1).

Diplomierter Agronom **W. S. Linjewitsch.**

Minsk, Januar 1928.
Institut für wissenschaftliche Forschung.



---

*) Einmalige Ausgaben für ewige Meliorationen (s. Tab. 3, allgemeine Ausgaben für Melioration und jährliche Ausgaben s. Tab. № № 4, 5, 6, 7, 8. Betriebskapitalanspannung für 1 ha Torfland s. Tab. № 10.

**) Betriebskapital.

